# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1972
Верасень-
Сьнежань

Год XX

№ 5–6
(133–134)

ЗЬМЕСТ:

## ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1972 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

### ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

**У Задзіночаных Штатах:**

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

**У Канадзе:**

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

**У Нямеччыне:**

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

**УВАГА:** Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XX September—December № 5-6 (133-134)**
**1972**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

**ГОД XX** **ВЕРАСЕНЬ—СЬНЕЖАНЬ** **№ 5—6 (133—134)**

*а. Т. П.*

# Калядныя думкі

Хрыстос нас вызваліў, каб мы былі вольнымі. Дык стойце цьвёрда і не паддавайцеся пад ярмо няволі. (Гал. 5, 1).

Здараецца, што юнак, які яшчэ нічога ў жыцьці не праіграў, бунтуецца супраць нашых родных традыцыяў, як калядная куцьця і інш. Ён ня вычувае той цёплай атмасфэры, якую стварае сямейны круг. Аднак пасьле, калі праканаецца, што ў жыцьці не заўсёды выходзіць так, як ён спадзяваўся, у яго зьяўляецца туга па дзіцячых успамінах: думкі самі бягуць да каляднага стала, ялінкі, куцьці, падарункаў, — як палалі радасьцяй вочы бацькоў, а шчасьцем вочы дзяцей!..

Але, калі ўспамінаем Каляднае Сьвята, дык яно выглядае, як абраз галяндзкага мастака: ёсьць там Божая Маці, сьвяты Язэп, а з боку паглядае пастушок: ёсьць нават вол і асёл, аднак няма там ... Божага Дзіцятка! Бо ў тым выданьні абраза рэкляма адрэзала споднюю частку, дык Божая Маці, Язэп, псатушок з валом і аслом глядзяць у ... паражнечу! А такі быў абраз прыгожы, дый няма ў ім зьместу. Што было найважнейшае, асталося за рамкамі.

А ці ня бывае часам падобна і у нас? Ёсьць усё, а нават захаванае цяпло традыцыі бацькоў і Бацькаўшчыны, Калядаў; аднак не хапае самага важнага, Таго, Хто прыйшоў да нас!

Нашае жыцьцё замыкацца ў кругу тугі і расчараваньня: ўсё роднае, мілае і сьвятое становіцца чужым і далёкім, надзеі здэфармаваныя — аж вось нам хацелася-б, як малым дзецям, вярнуцца да бацькі й маткі, прыпасьці да іхніх каленяў і выплакацца пасьля няўдачаў жыцьця!

Ці паварот да дзяцінства ёсьць галоўным зьместам Калядаў? Ці Бог жадае нас, як добры Бацька, толькі паглядзіць па галоўцэ?

Уздыхаюць да шчасьця ўсе людзі. Гэтая туга загадвае ім бараніць праўду і справядлівасьць. Яна ёсьць няясным яшчэ прадчуваньнем Бога, як крыніцы ўсялякага дабра. Можна было-б назваць яе «Старым Законам», выпісаным у чалавечым сэрцы: «Бо стварыў Бог чалавека да несьмяротнасьці, зрабіў яго на падабенства сваей натуры» (Мудр. 2, 23). Аднак чакаюць на нас расчараваньні, а з другога боку мы жадалі-б перайсьці праз жыцьцё «звычайна», не жадаючы нічога больш. Але-ж мы ня можам вызваліцца ад тугі. Можам адносіцца да яе, як да гуза — ракавага — на нашем целе, якога ніякімі сродкамі нельга вылечыць.

Бог перамяняе тугу на надзею; а тое, што было няясным прачуваньнем, становіцца ясным чаканьнем, абапёртым на прырачэньнях Самога Бога. І чалавек хоча сказаць: «О, мой Божа, веру Табе! Ведаю, што я існую ня прыпадкам. Гэта Ты паклікаў мяне да жыцьця і Табе дам за яго адказ».

Чалавек хацеў-бы пазбыцца сумніваў, аднак мала даверае самому сабе: яму здаецца, што ён сам выдумвае тое, да чаго імкнецца і таму на яго находзіць пакуса — адкінуць сваё пустое лятуценьне. Бо і колькі-ж людзей, спаткаўшыся з Добрай Навіною, пытаюцца «Ці гэта не за прыгожа?» Перамена ў надзею ёсьць цяжкім і балючым працэсам, як кожнае адрываньне ад формы, да якой чалавек прывык.

Але Бог дае чалавеку магчымасьць запоўніць тую паражнечу, якую чалавек адчувае, праз нашае злучэньне з Богам. І вось-жа Бог стаўся Чалавекам! Прынёс людзям вызваленьне.

Чым яно ёсьць? Каб лепш гэта зразумець, трэба перш апісаць няволю. Дык спытаемся юнака: «Чаму ты гэта зрабіў?» І часта пачуем адказ: «Такія былі ўмовіны...»

І сапраўды — гэта ня ёсьць толькі дзіцячы адказ — адгаворка. Але гэта ёсьць шчырае адчуваньне, што нешта чалавека змушае звонку і ўнутры рабіць так, а ня іначай. Шмат хто з нас адчувае, як намі нешта кіруе звонку: націск грамадзтва, пачутая апінія, мода, непараднасьць і інш. Усё гэта выказвае нашую нядужасьць і бясьсільле. І што раз часьцей і ня без жудасьці мы сабе усьведамляем, што свабода нам ня толькі дадзена, колькі «зададзеная», як лекцыя вучню, якую

мы павінны прыгатаваць і выканаць. Можна жыць і доўга, але ніколі ня быць у сваім жыцьці вольным чалавекам!

І вось тут, маючы перад вачамі нашае палажэньне ў сьвеце, мы можам ізноў адкрыць глыбокі сэнс факту, што Бог стаўся Чалавекам. А прыходзіць Бог да нас, каб адчыніць перад намі новую пэрспэктыву, якая перавышае і ачышчае ўсялякую чалавечую тугу. Бог адчыняе перад намі магчымасьць стацца людзьмі у такой паўнаце, якой людзтва ніколі не прачувала! Таму, што Бог, стаўшыся Чалавекам, паклікаў нас прыняць удзел у Ягоным жыцьці. Сьвятыя Айцы Цэрквы добра акрэсьлілі гэтую праўду, калі запісалі: «Бог стаўся Чалавекам, каб чалавек стаўся Богам!»

*

Ад чаго-ж нас вызваляе гэтая перспэктыва? Вызваляе нас ад самых сябе, ад нашае маленькасьці, або лепш, каб мы прызналі сваю маленькасьць.

Чалавек, хоць такі маленькі, ёсьць у Богу вялікім: яму дазволена служыць толькі Богу. Не дазволяецца яму пакланяцца «багам», якіх ён творыць сам сабе. Хрыстос паклікаў чалавека да дружбы і супрацоўніцтва з Богам, таму павінен ён аказацца годным гэтага покліку. І ў імя такога покліку чалавеку трэба адважна перамагаць жах, што прыдзецца вылезьці з сваей шкарлупіны. Трэба пакінуць тое, да чаго прывык — адыйсьці ад рэчаў, якія суляць выгоду і пустое шчасьце.

Словам, трэба сапраўды стацца чалавекам у поўным значэньні — адважна і з годнасьцяй. Бо найвышэйшая ступень шчасьця для чалавека — быць сынам Бога і братам Слова, якое сталася Целам — Божага Сына, Хрыста! Значыць, адважна выступаць па старане праўды і справядлівасьці і любові — гэта ёсьць адзіны адказ на тое, што Бог стаўся Чалавекам.

І ў гэтым могуць прыймаць удзел усе людзі і няхрысьціяне і нават тыя, што гэтага ня ведаюць, словам усе людзі добрае волі.

Але найперш і перад усімі гэты Божы заклік тасуецца да людзей сьведамых, якія самі жадаюць сваім жыцьцём ісьці за Хрыстом і ахвярна служыць Богу і людзям!

Такая задача вельмі трудная, аднак хрысьціянін не павінен апраўдываць сябе і шукаць дарогі ў неба больш лёгкай. Ёсьць, праўда, у чалавеку імкненьне вымаўляцца абставінамі і рознымі перашкодамі, але Сам Хрыстос сказаў: «Хто хоча ісьці за Мной, няхай возьме свой крыж на сябе і насьледуе Мяне». Тады туга заменіцца ў надзею, у якой будзе моцная аснова, якой ёсьць Сам Бог. Мы верым, што абапёртыя на Богу нашыя намаганьні ня будуць так званай «сызыфовай» працай, але сапраўды памогуць нам рэалізаваць у сабе нашую чалавечнасьць у Богу.

# III-ці Зьезд Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў

Ад 2 да 5 жніўня 1972 г. ў Лёндане, у беларускім рэлігійным Цэнтры, Марыян Гауз, адбыўся III-ці з чаргі на эміграцыі Зьезд Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў. Прынялі ў ім удзел: з Злуч. Штатаў Амэрыкі а. бэнэдыктын Уладзімер Тарасэвіч, пробашч царквы Хрыста Спаса ў Чыкаго; рэшта з Эўропы: а. Язэп Гэрмановіч, а. Тамаш Падзява і а. Фэлікс Журня — з Закону Марыянаў; а. Уладзімер Салавей — протоерэй з Нямеччыны, а. Аляксандар Надсон і а. Рабэрт Тамушанскі.

Зьезд пачаўся духоўнай канфэрэнцыяй Біскупа Ч. Сіповіча дня 2-га жніўня 1972 г. Наступнага дня (3. VIII.) быў выбраны прэзыдыюм: Біскуп Ч. Сіповіч — Старшыня, а. Т. Падзява — Сакратар. Былі высланыя прывітаньні ад Зьезду: Папе Паўлу VI, Кардыналу М. Фюрстэнбэргу і Апостальскаму Дэлегату Дамініку Энрічі. І ад усіх гэтых Асобаў былі атрыманыя вельмі ласкавыя пажаданьні, а ад Сьвятога Айца пажаданьні і багаславенства для працы Зьезду.

На гэты Зьезд былі запрошаныя ўсе беларускія сьвятары з эміграцыі, ня ўсе аднак змаглі прыбыць. Большая частка з іх прыслала, апрача прывітаньняў, свае дэзыдэраты, якія былі ўзятыя пад увагу ў часе дыскусіяў.

Былі прачытаны два даклады: 1) Біскуп Ч. Сіповіч: Сучасны стан Беларускае Каталіцкае Царквы на Бацькаўшчыне і на эімграцыі. 2) а. Я. Гэрмановіч: Пякучыя патрэбы ў беларускім рэлігійным жыцьці.

Даклады пасьля заканчэньня былі развважаны і дапоўнены ў дыскусіях. а. Ул. Тарасэвіч прывёз на Зьезд заўвагі і пажаданьні ад парахвіянаў з Чыкаго. Камісія ў складзе: а. Я. Гэрмановіч і а. Ул. Тарасэвіч дый а. Ал. Надсон апрацавала канклюзіі, якія былі пась-

ля разважаны на пленуме і прынятыя канчаткова ў форме, якая тут падаецца.

*

Зьезд прайшоў у братняй, мілай атмасфэры, у малітве і працы. Усім зразумела, што ў нашым каталіцкім жыцьці насьпела больш патрэбаў, чымся іх магчыма здаволіць. Аднак паводле магчымасьці і пры Божай помачы ўсё тое, што згодна было прынята на Зьезьдзе, будзе ўводзіцца ў жыцьцё.

Даклад а. Я. Гэрмановіча і прынятыя рэзалюцыі друкуем тут бяз зьменаў.

## ДАКЛАД НА ЗЬЕЗЬДЗЕ СЬВЯТАРОЎ-БЕЛАРУСАЎ У ЛЁНДАНЕ

Аб МІНУЎШЧЫНЕ гаварыць ня буду: для гэтага неабходна спэцыяльная падрыхтоўка і адпаведны час. Аднак мушу падкрэсьліць, што праца над нашай гісторыяй займае цяпер нямала навукоўцаў і мастакоў, бо асьвятленьне нашае мінуўшчыны абсалютна неабходна, бо нашая гісторыя была дасюль мала ведамая ня толькі чужынцам, але і нам самым, або была забытая ці фальшаваная. І цяпер яна адкрываецца і праступецца — так у эміграцыі, як і часткова ў Савецкім Саюзе.

І ў гэтай галіне выяўляецца вялікае значэньне нашае Беларускае Бібліятэкі-Музэю-Архіву імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

Але мы прыступім да СУЧАСНАСЬЦІ дзеля нашае БУДУЧЫНІ.

Аб'ём і абсяг нашае працы сьвятароў-эмігрантаў такі вялікі, што яго нельга агарнуць і вычарпаць: аднак мы мусім працаваць паводле магчымасьці, сілы і жаданьня, робячы тое, што рабілі дасюль — толькі лепш, паколькі Бог нам пазволіць.

**І. Разважым перашкоды ў сваіх абавязках.**

а) Недахоп ДУХАВЕНСТВА — памоцнікоў і наступнікаў. Сама натура справы вымагае, каб мы стараліся здабыць сабе кандыдатаў для працы тут і цяпер, але тым больш для прышлай працы ў Беларусі. Праўда, маем Уладыку-Біскупа, але ў нас недахоп сэмінарыі ды і кандыдатаў да яе. А нават найбольш геніяльны архітэктар і майстар нічога паважнага ня збудуе вылучна сваею мудрасьцяй і сілай — бяз другіх людзей. І нават падчас лютага голаду сям'я стараецца захаваць зярно-насеньне для будучага ўраджаю, каб ня згінуць . . .

Сам Госпад, Ісус Хрыстос, Які мог-бы Сам адзін даканаць навучаньня, аднак адразу пасьля свайго хросту заклікае апосталаў. А, маючы ужо трох, творыць арганізацыю, Сымона ставячы Пятром-Каменем, як фундамант прышлае пабудовы — Царквы. Пасьля, апрача 12 апосталаў, яшчэ набірае і пасылае на пробу працы 70 вучняў. Тады, навучаючы народ, асобна давучае апосталаў, давярае ім глыбокія тайны і рыхтуе Сабе з іх наступнікаў.

Падобна паступае і Сымон-Пётр: хоць мае найбольшыя дары Сьвятога Духа, творыць найбольш цудаў — аж ускрашае памёршых, аднак усюды стараецца працаваць у злучэньні, як кажацца ў Новым Запавеце: «Пётр і апосталы», «Пётр і каторыя з ім»; бярэ сабе памацнікам Яна, загадвае выбраць, на месца Юды Іскарыёта, новага апостала, а пасьля дыяканаў і інш.

Таксама Павал мае вялікую групу вучняў для духоўнае супрацы.

*

б) З гэтага і навука для нас. Нашая праца, якая так пасьпяхова вялася ў Друі і ў Вільні, у 1938 г. была зламана з прычыны варожасьці польскага ўраду і духавенства. Такжа было перашкодай для працы беларускай назначэньне нашых айцоў у Манджурыю; пасьля вайна, варожасьць фашызму і бальшавізму. Такжа й тое, што нашых айцоў і студэнтаў выгналі з Беларусі ў Польшчу, дзе яны былі прымацаваны спэцыяльнымі варункамі і змораныя працай ў правінцыі польскіх Марыянаў, дый не маглі ані выехаць у эміграцыю, ані ўлучыцца ў якую іншую працу для беларусаў і так асталіся ў Польшчы. А з Манджурыі нашых айцоў вывезьлі камуністы ў Сібір у 1948 г. Так нашыя кадры айцоў і братоў, расцярушаныя і панішчаныя, разсыпаліся ці паўміралі (аа. Цікота, Дашута, Смулька, Хамёнак, Антон Падзява) — аж асталіся рэштткі ў Марыян Гоўзэ ў Лёндане. Гэта ўсё — допуст Божы і цяжкі крыж для нашае ідэі Беларускіх Марыянаў і духовая страта для Бацькаўшчыны — поўная катастрофа!

Значыць, што нам цяпер рабіць?

Калі немагчыма нам цяпер здабыць канкандыдатаў без сэмінарыі, а такжа сродкаў і з прычыны прасьледу рэлігіі ў Сав. Беларусі, нам прынамсі трэба:

**II. Захаваем сябе для працы.**

а) Захаваць сябе, пільнуючы свайго здароўя, але толькі для працы (а не для вэгетацыі ў інвалідстве), каб трываць у працаздольнасьці. І асабіста прашу, калі не змагу далей працаваць і стану імбэцільліс, дык не ратуйце мяне сродкамі дарагімі і збыткоўнымі, а толькі памагайце менш цярпець, каб мог хутчэй і спакойна адыйсьці.

б) Здабываць кандыдатаў старшых — з народу, нават жанатых на ўсходні і на лацінскі абрад, давучаючы іх у сябе — на дыяканаў, а пасьля і на сьвятароў.

в) Навязываць бліжэйшыя адносіны з беларусамі-сьвятарамі ў духу экумэнізму (з праваслаўнымі) — праз дыялёг і ўзаемную помач у працы, нават і матар'яльна, а такжа ў выдавецтве.

А перад усім трэба палажыць усю надзею на Бога, трымаючыся на духовым узвышшы — ў малітве, ахвярнасьці, цярплівасьці і пакоры, пад апекай Дзевы Марыі і Сьвятых Патронаў.

**III. Выдавецтва.**

а) СЬВЯТОЕ ПІСЬМО. За гэта трэба ўзяцца як найпільней. Дасюль у нас гэтая праца была ўжо падзеленая і ўжо часткова рабілася: Архімандрыт Леў Гарошка пералажыў Эвангельле і Апостал на нядзелі-сьвяткі, для ўсходняга абраду. І а. Язэп Гэрмановіч пераклаў Псальмы.

Каб павесьці працу сыстэматычна, мусім аслабіць яе ў іншых аддзелах на карысьць Сьв. Пісьма. Нават і тыя айцы, якія навукова менш прыгатаваныя, няхай бяруцца за гэтую справу, карыстаючы з працы іншых вучоных, асабліва найбольш выдатных. А такжа трэба выкарыстаць даўнейшыя беларускія пераклады — ці то дэфэктовыя, ці абарваныя і адшукваць страчаныя, як напр. пераклад «Апостальскіх Дзеяў» праз ксяндза Адама Лісоўскага.

Пры гэтым кіруем заклік да нашага грамадства — усе, каму будуць перасланыя ў брульёне да крытыкі часткі перакладаў Сьв. Пісьма, маюць абавязак у сумленьні, не адкладаючы — (паводле сваей веды) — пазнаёміцца і прылажыцца да рэцэнзіі, падаць свае заўвагі і магчымыя прапановы, папраўкі і праекты. І ўсё грамадзтва мае сьвяты абавязак перад Царквою і Бацькаўшчынай памагчы выдаць цэласьць Сьвятога Пісьма, каб яно магло і практычна здаволіць патрэбы нашага народу і рэпрэзэнтаваць вонкава Беларусь.

б) Трэба нам перакладаць і выдаваць — паводле магчымасьці — Сьвятую Літургію Усходнюю і Рымскую ў беларускай мове.

в) Таксама трэба добра пералажыць пацеры і малітвы, а такжа і песьні. Апэлюем да нашых паэтаў на эміграцыі, каб прынялі ўдзел у перакладзе на беларускую мову рэлігійных песьняў, прывычных у нашым народзе, якія сьпяваў дасюль, на жаль, у чужых мовах, асабліва «Калядак», а такжа Вялікодных, пахавальных і іншых. З гэтым вяжацца выданьне новага малітоўніка «гражданкай» для каталікоў лацінскага абраду: гэта асабліва патрэбна для нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне, якія ўжо страцілі магчымасьць чытаць лацінкай.

г) І адчуваецца вялікая патрэба кніжак рэлігійнага зьместу: наагул — тут «мора непачатае» працы, а патрэбы ўзрастаюць.

д) «БОЖЫМ ШЛЯХАМ». Гэты часапіс у новай рэдакцыі выходзіць ужо 8-мы год як двухмесячнік. Ён атрымлівае пахвалы і падтрымку ад розных прыяцеляў і дабрадзеяў. Аднак не бракуе і крытыкі, часам і даволі вострай: выказваюцца недахопы, памылкі і жаданьне зьменаў. Рэдактар ведае аб гэтых слабасьцях часапісу ня менш ад заўзятых праціўнікаў дый стараецца направіць памылкі, але — на вялікі жаль — сам редактар ня зможа выраўнаваць крывой баразны бяз помачы чытачоў і прыхільнікаў, а зрэшты і век рэдактара ўжо вымагае замены (82 г.).

Рэдакцыя апэлюе да пісьменьнікаў, карэспандэнтаў і крытыкаў: — Дайце падмогу, а то прыходзіцца старому рэдактару чырванець за сябе і за грамадства!

Пры «Божым Шляхам» і ў лучнасьці з ім мае выходзіць часапіс пад асобай рэдакцыяй у мове ангельскай. Тымчасам пытаемся зацікаўленых і просім выдаць сваю апінію: ці патрэбны такі і што ў ім павінна быць падавана? Праектуецца назва «Маладым Шляхам».

І ў канцы апэлюе рэдакцыя аб падпіску — належную і неадкладную! Прысылаць на адрас паданы ў часапісе на імя а. Фэлікса Журні.

*а. Язэп Гэрмановіч, рэдактар «Б.Ш.)*

## РЭЗАЛЮЦЫЯ ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІЦКІХ СЬВЯТАРОЎ

### у Лёндане 2—5 жніўня 1972 г.

Беларускія каталіцкія сьвятары з Заходняй Эўропы і Злучаных Штатаў Амэрыкі, сабраўшыся на зьезд у Лёндане 2—5 жніўня 1972 г. пад кіраўніцтвам Я. Д. япіскапа Часлава Сіповіча, Апостальскага Візытатара для беларусаў, і разгледзеўшы стан Каталіцкай Царквы і душпастырскай працы на Беларусі і ў беларускіх асяродках на эміграцыі, пастанавілі наступнае:

1) На Беларусі сёньня пераважная большасць вернікаў каталікоў пазбаўлена магчымасьці нармальна практыкаваць сваю рэлігію і атрымліваць тую духовую дапамогу, якую звычайна дае Сьвятая Царква. Справа пагоршваецца тым, што сярод невялікай колькасьці каталіцкіх сьвятароў, якія яшчэ асталіся на Беларусі, большасьць вядзе душпастырскую працу на чужой і незразумелай для

народу польскай мове. Дзеля гэтага існуе балючая патрэба на Беларусі свайго япіскапа рымскага абраду, які б зарганізаваў душпастырскае абслугоўваньне вернікаў на роднай мове. Зробленыя ў гэтым напрамку стараньні не далі да гэтага часу жаданых вынікаў. Дзеля гэтага зьезд зьвяртаецца да Ўладыкі Часлава Сіповіча з просьбай аднавіць і ўзмоцніць перад Сьвятым Пасадам стараньні атрымаць для Беларусі япіскапа рымскага абраду, уважаючы гэтую справу як рэч неабходную для самога існаваньня Каталіцкай Царквы на Беларусі.

2) Вялікая колькасьць беларусаў каталікоў, якія цяпер жывуць на тэрыторыі Польскай Народнай Рэспублікі, пазбаўлена сваіх сьвятароў і душпастырская праца сярод іх вядзецца выключна на польскай мове. Зьезд уважае патрэбным зьвярнуць увагу іерархіі польскай Каталіцкай Царквы на гэты ненармальны стан рэчаў і дамагацца таго, каб беларусы ў Польшчы былі абслугоўваны сваімі сьвятарамі на роднай мове, і каб Каталіцкая Царква ў Польшчы перастала служыць мэтам польскай нацыянальнай палітыкі ў адносінах да беларусаў.

3) На эміграцыі беларусы каталікі рымскага абраду таксама не маюць поўнасьцю сваей зарганізаванай душпастырскай апекі. Было б пажаданым мець на эміграцыі беларускага япіскапа рымскага абраду, які быў бы адказны за арганізацыю душпастырсвта на чужыне, а таксама займаўся б справамі сёньня немагчымымі на Беларусі, як напр. выданьне рэлігійнай літаратуры, падрыхтоўка кандыдатаў да сьвятарства і т. д. Калі б гэта было немагчымым, зьезд уважае, што было б карысным і пажаданым, каб Уладыка Часлаў Сіповіч, які зьяўляецца Апостальскім Візытатарам для беларусаў каталікоў усходняга абраду, меў аднолькавыя паўнамоцтва для беларусаў каталікоў абодвух абрадаў.

4) Нармальнае жыцьцё Царквы ня можа разьвівацца без сьвятароў. Беларусы праз доўгі час былі пазбаўлены магчымасьці ўзгадаваньня ўласнага духавенства і таму недахоп сьвятароў адчуваецца сярод іх асабліва балюча. Аб гэтым павінны памятаць усе беларусы каталікі, сьвецкія і сьвятары, і прасіць у малітвах Бога аб сьвятарскіх прызваньнях для беларускага народу і сярод беларускага народу. Адначасова трэба старацца знайсьці адпаведных кандыдатаў да духоўнага стану, зьвяртаючы ўвагу ня толькі на моладзь, але і на старэйшае пакаленьне. Трэба таксама паважна разважыць магчымасьць прыцягненьня да сьвятарскага служэньня жанатых мужчын.

5) Другім ня менш важным пытаньнем зьяўляецца справа выданьня Сьвятога Пісаньня на беларускай мове. Зьезд уважае, што трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на гэтую справу і даць ей першынство перад іншымі. У першую чаргу трэба выдаць выгодным фарматам Новы Запавет, каб зрабіць яго даступным шырокаму кругу вернікаў.

6) Таксама насьпела патрэба выданьня на беларускай мове літургічных тэкстаў абодвух абрадаў, малітаўнікаў, катэхізмаў, тэкстаў адміністрацыі сьвятых тайнаў і т. д.

У эміграцыйных абставінах, дзе асабісты кантакт з вернікамі ёсьць часта немагчымы, апостальства цераз прэсу набірае асаблівай важнасьці. Маючы гэта на ўвазе, трэба старацца, каб беларускія рэлігійныя пэрыядычныя выданьні былі якнайлепшымі з пункту гледжаньня зьместу, мовы і вонкавага выгляду, бо слабы і неахайна выданы часапіс адбівае ахвоту і цікавасьць у чытачоў. Бяручы пад увагу абмежаваныя сілы і магчымасьці нашай эміграцыі, было б лепш мець адзін добры рэлігійны часапіс, чым некалькі слабых.

8) Абавязкам кожнага сьвятара ёсьць прапаведаваць Слова Божае на добрай і зразумелай народу мове. Дзеля гэтага беларускія сьвятары павінны добра ведаць сучасную беларускую літаратурную мову і карыстацца ею ў гутарцы і асабліва на пісьме. Дзеля той самай прычыны, каб зрабіць Слова Божае даступным для якнайшырэйшага кругу вернікаў, было б пажаданым друкаваць беларускія рэлігійныя выданьні кірылічным шрыфтам, які сёньня зьяўляецца агульнапрынятым на Беларусі.

9) Бяручы пад увагу, што вялікая колькасьць моладзі беларускага паходжаньня на эміграцыі гаворыць з цяжкасьцю па беларуску, было б пажаданым, каб душпастырская праца сярод іх вялася часткова на мове краіны, у якой яны жывуць. Было б карысным, калі б беларускія рэлігійныя часапісы мелі дадатак на ангельскай ці іншых мовах залежна ад патрэбы і магчымасьці.

10) Не зачыняючы вачэй на сумны факт рэлігійнага падзелу сярод беларускага народу, выкліканага гістарычнымі абставінамі, зьезд уважае патрэбным падчыркнуць важнасьць братняга супрацоўніцтва і дапамогі паміж каталікамі, праваслаўнымі і ўсімі хрысьціянамі ў духу любові і ўзаемнай пашаны.

11) Адной з вялікіх цяжкасьцяў у жыцьці і працы беларускіх сьвятароў на чужыне зьяўляецца іхняя расцярушанасьць і адыза-

ляванасьць. Адчуваецца вялікая патрэба ў рэгулярных спатканьнях і вымене думак. Дзеля гэтага было б пажаданым, каб у будучыні сьвятарскія зьезды адбываліся больш часта, прынамсі раз у тры гады. Для падтрыманьня сувязі між зьездамі павінен выдавацца Апостальскім Візытатарам бюлетэнь.

12) Зьезд уважае патрэбным даць магчымасьць сьвецкім вернікам браць больш актыўны ўдзел у царкоўных справах. У прыватнасьці было б пажаданым, каб у будучыні сьвецкія прадстаўнікі (мужчыны і жанчыны) былі прысутнымі на сьвятарскіх зьездах.

Старшыня Зьезду
*† Чэслаў Сіповіч*

Сакратар
*а. Тамаш Падзява*

---

*а. Ф. Журня*

# Адыйшоў Патрыярх Атэнагорас I

7-га ліпня г. г. адыйшоў з гэтага сьвету адзін з найбольшых змагароў за адзінства хрысьціян. Быў ім Патрыярх у Канстантынопалі Атэнагорас I. Чалавек на сусьветную меру цывілізаваны: меў шырокі розум і багатую веду, знаў патрэбы Царквы і ўсё гэта спалучаў з глыбокім унутраным жыцьцём, разьвітым малітвай і цярпеньнем.

Спачатку быў сакратаром пры двух па чэрзе мітрапалітах у г. Атэнах, пасьля сам стаў мітрапалітам на востраве Корфу, дзе ў суседзтве меў 4.000 каталікоў, што дало яму нагоду пазнаць лепш каталікоў, а з таго нарадзілася й думка аб экумэнізьме. У 1930 г. назначаны мітрапалітам-пастырам для праваслаўных грэкаў у абедзьвюх Амэрыках. Праз 18 гадоў настойлівай працы ўлажыў шмат працы для арганізацыі Праваслаўнае Царквы, адукацыі клеру, закладаючы духоўныя інстытуты. I тут ізноў сутыкаецца з Цэрквай Каталіцкай і Пратэстанскімі, што яму паказала шырокі гарызонт працы для лучнасьці ўсяго хрысьціянства.

### Патрыярх у Канстантынопалі

У 1948 быў выбраны на «Экумэнічны Патрыярхат» пад імям АТЭНАГОРАС I. Багаты сваімі досьледамі і практыкай, усей душой аддаецца працы арганізацыі свайго Патрыярхату і ўсяе Праваслаўнае Цэрквы. З яго ініцыятывы адбываюцца агульныя зьезды-канфэрэнцыі «Пан-Ортодоксыйныя» праваслаўнага вышэйшага духавенства на вострове Родос і ў іншых месцах. Так у паразуменьні з іншымі Патрыярхатамі зрадзілася думка склікаць Сусьветны праваслаўны Сынод (Сабор), які ўжо й сапраўды рыхтуецца. На канфэрэнцыях узгоднілі, што кожная царква — аўтакефальная, можа весьці — на сваю адказнасьць — перагаворы (дыялёг) у справах адзінства з Каталіцкаю Царквою.

Таксама даходзяць — стараньнем Атэнагора I — да дыялёгу з пратэстантамі — аж Праваслаўныя Цэрквы (аўтакефельныя) улучаюцца ў Сусьветную Раду Цэркваў у Жэнэве з поўнымі правамі сяброўства.

Аднак найбольш увагі й сэрца прысьвячае Патрыярх справе адзінства з Каталіцкай Царквою. Да гэтага асабліва прычынілася знаёмасьць з біскупам Язэпам Ронкальлі, які быў дэлегатам Ватыкану ў Баўгарыі, а пасьля ў Турцыі і Грэцыі. Як толькі кардынал Ронкальлі быў выбраны на Папу ў 1958 з імем ЯНА XXIII дый склікаў Сусьветны каталіцкі Сабор, дык адносіны Цэркваў моцна ажывіліся. Адразу Атэнагорас прывітаў Яна XXIII словам прыязьні, хоць яшчэ з далёкага Канстантынопаля, — словам узятым з Эвангельля: «Быў чалавек пасланы Богам, а імя яму было Ян»! Гэтым выяўляе сваё адчуцьцё, што ў Каталіцкай Царкве пачынаецца новая эпока, што і спраўдзілася з новым Саборам 1962 г.

Папу Паўла VI-га назваў Атэнагорас «Паўлам Другім» у адносінах да Апостала Сьвятога Паўла, якога Павал VI адразу пачаў насьледаваць у нязвычайна энэргічнай дзейнасьці для адраджэньня Каталіцкай Царквы. I яшчэ Атэнагорас у сапраўднай пакоры называў Паўла «Старшым Братам», а каталіцкую Царкву «Старшай Сястрою» — ў значэньні гістарычнасьці Патрыярхаў, як і ў важнасьці Рымскага Пасаду.

I вось адразу Папа і Патрыярх пачалі «Дыялёг Любові», які прывёў іх да спатканьня ў Еразоліме, у Канстантынопалі і ў Рыме: у Еразоліме ў 1964 г. на гарэ Аліўнай дый у 1972 г. у Канстантынопалі і зараз у Рыме. Гэтыя сустрэчы паглыбляюцца лістамі, прывітальнымі тэлеграмамі з розных нагодаў і падаркамі. У Рыме Патрыярх аддаў рэвізыту Папе. Вынікам усей акцыі паедннаньня быў факт зьняцьця ўзаемнае экскамунікі — анатэмы, накіненай наўзаем Рымам і Канстантынопалям пры разрыве Цэркваў у 1054 г. Пры дакананьні гістарычнага акту зьняцьця ана-

тэмы абедзьве староны заклікалі сябе наўзаем да прабачэньня і да злучэньня на заўсёды!

### Загледжаны ў адзінства

У апошнія гады свайго жыцьця Патрыярх Атэнагорас I усей душою імкнуўся да лучнасьці Цэркваў, уважаючы яе як «Містычнае Хрыстовае Цела». I пры ўсіх спатканьнях з Паўлам VI-ым Патрыярх з ім супольна маліўся: адзін па лаціне, а другі па грэцку і яны паўтаралі малітву самога Хрыста, «Каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне, а Я ў Табе. Хай яны будуць адно» (Ян 17, 21).

I нядаўна ў гэтым годзе Патрыярх падараваў Папу грунтоўна апрацаваную кнігу — «Кнігу Любові» — і зьмясьціў у ёй здарэньні і дакуманты, які маюць сувязь з іх працай для адзінства Царквы. Папа, пераглядаючы гэтую кнігу, выявіў надзею, што яшчэ далучыцца да яе і апошні разьдзел, які раскажа ўсяму сьвету аб канчатковым прымірэньні і злучэньні Цэркваў! Гэтая кніга — сапраўды прыгожая гісторыя іх «Дыялёгу Любові»!

Перад сьмерцяй Патрыярх з жывым усхваляваньнем паўтараў: «Каб дачакаць дня, калі будзем разам у Сьвятой Літургіі піць з аднэй чашы».

Як калісь прароку Майсею, які прывёў народ да Абяцанай Зямлі, ня было суджана ўвайсьці ў яе, а толькі з высокай гары яе ўбачыў, так і Патрыярху ня прышлося дачакацца адзінства . . . Памёр, углядаючыся вачамі сваей душы яшчэ на ня блізкае злучэньне Цэркваў. Аднак ягонае маленьне і шчырае жаданьне значна прыблізілі гэты неабходны акт лучнасьці.

### Апошнія лісты

а) ПАВАЛ VI пісаў:

Яго Сьвятасьць Атэнагорас I —
Экумэнічны Патрыярх —

Вашая Сьвятасьць!

Апошнія адзнакі братэрства і сардэчнасьці Вашае Сьвятасьці адносна нас адазваліся глыбока ў нашым сэрцы. Яны прычынілі нам сапраўдную, шчырую радасьць. Мы сьпяшым Вам за гэта падзякаваць. Разважаючы аб апошніх здарэньнях з гэтых пару гадоў, адчуваю пільную патрэбу настойліва падзякаваць Госпаду, што даў нам магчымасьць сустрэчы з Вашай Сьвятасьцю, а ўздольніў нас да служэньня разам Ягонай Царкве і яе адзінству.

Мы адбылі з Вамі вялікую і багаслаўлёную дарогу, памагаючы нашым Цэрквам перамагчы старавечныя перашкоды і ў вялікай меры залячыць раны, якія разлучаюць думкі і сэрцы нашых вернікаў. I такім чынам Каталіцкая і Праваслаўная Царква ізноў апынуліся блізка сябе ў сваім удзеле ў Тайне-Ахвяры Хрыстовай, у якой Бог аб'яднаў нас з Сабою праз Хрыста. (II Карынт. 5, 8). Дзякуй Богу! Дух Сьвяты аднак патрабуе ад нас прадаўжваць пачатую справу і закончыць марш да адзінства, якое знойдзе сваё завяршэньне ў супольным служэньні Сьвятой Літургіі, якая ёсьць самым дасканалым знакам поўнага адзінства.

Мы таксама жадаем падарожнічаць з Тваею Сьвятасьцю да Эммаус, разважаючы Сьвятое Пісьмо, а гэта з тою мэтай, каб спаткаць госпада ў «Ламаньні Хлеба» — Эўхарыстыі. Сьвяты Дух загадвае нам таксама адбыць гэтае падарожжа разам з сваімі вернікамі. I Ён даў нам моцнае і непахіснае натхненьне і пастанову, каб рабіць усё, што зможам, — каб прыгатаваць гэты дзень.

Мы павінны рабіць гэта са шчырай любоўю і чуйнасьцю, пaступова адсоўваючы перашкоды, якія маглі-б аддаліць гэтую пажаданую гадзіну.

З глыбокімі пачуцьцёмі любові да Цябе, Дарагі Браце ў Хрысьце,

Папа Павел VI

З Ватыкану, 4-га чэрвеня 1972 г.

✳

б) Да Паўла, Багаслаўлёнага і Сьвятога Папы Старога Рыму.

Прывітаньне ў Хрысьце.

Вельмі дарагое мне пісьмо Вашае Сьвятасьці, так блізкага майму сэрцу, з дня 4-га Чэрвеня, прывезенае дарагім а. Дюпрэй, было прынята мною з глыбокай любоўю і гонарам і ўцешыла нас асабіста дый і Сьвяты Сынод, якому было паказана.

Мы праслаўляем Бога і таксама дзякуем Вам, Дарагі і Дастойны Брат, за гэтую новую нагоду для паглыбленьня сувязі. I гэта нас вельмі ўцешыла і аднавіла нашую супольную надзею, што Бог прыйдзе і што ня спозьніцца даць Сваёй Царкве поўнае Адзінства, зьбіраючы нас ізноў ад Захаду і Ўсходу, з Паўдня і з Паўночы навакола супольнага Стала Новага Запавету. У малітвах і з цярплівасьцю, у паслухмянасьці Божай Волі Мы з тугою чакаем з Вашай Дастойнай Сьвятасьцю гэтага вялікага, прамяністага, Гасподняга Дня і шчыра хочам супрацоўнічаць з Вамі ў любові і кансэквэнтна змагацца, нічога не занядбаўшы, што павінны зрабіць для Хрыстовае Царквы, «якую Ён набыў Сваею Крывёю» (Апост. Дзеі 20, 28).

Таму, разумеючы неабходнасьць адбыць гэтую багаслаўлёную Дарогу да Адзінства ў

згоднасьці з нашымі Дастойнымі Пастырамі і ўлюблёнымі вернікамі, ясна бачым з Вашаю Сьвятасьцю, як неабходная ёсьць справа разьвіваць у кожнай з нашых Цэркваў дух братэрства і аб'яўляць праўду, што мы ёсьць «адно ў Хрысьце».

Мы горача молім, каб Непавінная Галава Царквы — Хрыстос, Які зрадзіў Сваё ўсё Цела праз усялякае павязаньне і сувязь дый дае Яму ўзрост (Эф. 4, 15-16), каб падняў наш дух і абдарыў нас мудрасьцю, каб мы маглі належна споўніць нашую службу ў так важным і далікатным пэрыядзе будаваньня ў глыбіню, у якім (пэрыядзе) мы цяпер жывём — для справы Адзінства, для шчасьлівага і сталага яго асягненьня на хвалу Бога ў Сьвятой Тройцы.

Аднаўляючы ўпэўненасьць нашых братэрскіх пачуцьцяў і салідарнасьці з Вашаю Сьвятасьцю, абнімаем Вас у сьвятым прывітаньні.

Астаёмся з пачуцьцём вялікае пашаны.
Вашае Сьвятасьці сардэчны брат у Хрысьце.

*Япіскап Атэнагорас* — Канстантынопаль
З Багаслоўскае Школы ў Халькі,

дня 22 Чэрвеня 1972 г.

*

Кардынал Вільлебранс сказаў, што Патр. Атэнагорас I быў вялікім і найбліжэйшым прыяцелям Паўла VI і Каталіцкае Царквы. А Папа ў сваіх успамінах гаварыў: «Цэлы сьвет гаворыць (пра ягоную сьмерць) з дзівам і пашанай... Ён узбуджае чэсьць і сымпатыю. Мы таксама належым да тых, якія яго шануюць і любяць. І Ён заўсёды дарыў нас прыязьняй і даверам, што нас заўсёды глыбока хвалявала. І мы спадзяёмся і жадаем мець у Ім і далей блізкага Брата ў супольнасьці сьвятых».

---

*а. Аляксандар Надсон*

# Падручнік Фёдарава і Скарына

Імя маскоўскага друкара Івана Фёдарава цесна зьвязана з гісторыяй кнігадрукаваньня сярод усходніх славян. Пачаў ён сваю друкарскую дзейнасьць у Маскве, дзе ў 1564 г. разам з беларусам Пётрам Мсьціслаўцам выдаў кнігу «Апостал». Пасьля ён прадаўжаў сваю працу у Беларусі ў Заблудаве, і наканец на Ўкраіне — у Львове і Астрозе. Між іншым Фёдараву належыць заслуга выданьня першага сярод усходніх славян падручніка для навукі чытаньня. Кніга гэтая, выданая ім у Львове ў 1574 годзе, была праз доўгі час няведамай у славянскай бібліяграфіі. Толькі ў 1955 годзе Джэкабсан апісаў і перавыдаў фатаграфічным спосабам адзіны экзэмпляр падручніка, які знаходзіцца ў бібліятэцы Гарвардскага ўнівэрсытэту[1]).

Падручнік Фёдарава зьявіўся ў часе, калі праваслаўнае грамадства ў Беларусі і на Ўкраіне, занепакоенае поступамі пратэстанцкай рэфармацыі і каталіцкай контррэфармацыі, пачало ўсьведамляць сабе патрэбу і карысьць асьветы. Пачалі паяўляцца школы, закладчыкамі якіх былі спачатку адзінкі, як князь Астрожскі, а пасьля праваслаўныя брацтвы ў Вільні, Львове і іншых гарадах. З ростам ліку школ узрастала таксама запатрабаваньне на падручнікі і кніга Фёдарава ня толькі хутка разышлася, але таксама перавыдавалася з невялікімі зьменамі некалькі разоў на працягу XVI стагодзьдзя.

Кніга Фёдарава была падручнікам для навукі царкоўнаславянскай мовы. Зьмест яе сёньня ўжо добра ведамы[2]). Спачатку ідзе алфавіт, далей практыка чытаньня па скла-

---

[1]) «Iv: Fedorov's Primer». Facsimile Edition with Commentary by Roman Jakobson and Appendix by William A. Jackson. **Harvard University Bulletin,** IX, 1 (Winter 1955). Таксама асобнай адбіткай. (Далей цытуецца як Jakobson).

[2]) Вось найважнейшая літаратура аб падручніку Фёдарава, апрача вышэй прыведзенай працы Джэкабсона: В. И. Лукьяненко, «Азбука Ивана Федорова, ее источники и видовые особенности». **Труды отдела древнерусской литературы,** XVI, Москва—Ленинград, АН СССР, 1960. стр. 208—229; М. Б. Ботвинник, **У истоков учебной книги,** Мінск, «Вышэйшая школа», 1964, стр. 25—43; яго-ж, „Азбука" Ивана Федорова — источник просвещения восточнославянских народов в XVI—XVII вв.». **Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белорусии.** Мінск 1970, стр. 150—167, (АН БССР. Фундам. бібліятэка ім. Я. Коласа).

Звычайна падручнік Фёдарава называюць «азбукай», а часам «букваром». Сам Фёдараў ня даў ніякага тытулу сваей кнізе, якая нават ня мела тытульнага ліста. Першы раз у тытуле слова «азбука» было ўжыта ў кнізе **Часовник, в нем же напреди азбуки к наученію дѣтем хотящим разумѣти писа-**

дах, кароткія весткі з граматыкі, арфаграфіі, наканец малітвы і тэксты для чытаньня. Гэтыя тэксты зьяўляюцца своеасаблівым павучэньнем для вучняў і бацькоў. Яны скампанаваны з выбраных вершаў з Прыповесьцяў Саламона (разьдзелы 22, 23, 24 і 29) і пасланьняў сьв. Паўла (да Эфэсцаў, Каласаяў і Першага пасланьня да Салунянаў). Ужо Джэкабсан зьвярнуў увагу на тое, што рэдакцыя Прыповесьцяў у падручніку значна адрозьніваецца ад тэкстаў у «Астрожскай Бібліі»[3]). Як ведама, мова «Астрожскай Бібліі», выданай тым самым Фёдаравым у 1581 г., была тыповай царкоўнаславянскай мовай XV—XVI стагодзьдзяў у яе ўсходнеславянскай рэдакцыі. У 1961 г. В. Лук'яненка, вывучаючы крыніцы падручніка Фёдарава, параўнала тэксты Прыповесьцяў у падручніку з адпаведнымі месцамі ў Бібліі Францішка Скарыны, аднак не змагла зрабіць канкрэтных канчатковых высноваў. Паводле яе, «обнаруживается совпадение фразеологических оборотов, характерных для обоих памятников. Тем не менее полного редакционного тождества не наблюдается»[4]).

Адным з дапаможнікаў, якім карыстаўся Скарына пры падрыхтоўцы свайго перакладу, была чэшская Біблія, выданая ў Вэнэцыі ў 1506 г.[5]). Уплыў яе адчуваецца ва ўсіх ягоных пражскіх выданьнях. Вось для прыкладу ўрыўкі тэкстаў Прыповесьцяў з падручніка Фёдарава і бібліяў Скарыны і чэшскай[6]):

| Падручнік Фёдарава 1574 г.<br>**Прып. Сал. 23** | Скарына 1517 г. | Чэшская Біблія 1506 г. |
|---|---|---|
| (10-12). Не дотыкаися<br>межеи чужих, и на поле<br>сироты не въступуи, поне-<br>же мститель их силен есть,<br>иже судити будет противу<br>тебѣ кривду их. Да внидет<br>къ наученїю сердце твое,<br>и уши твои къ словесем<br>разума. | Не дотыкаися<br>межеи малых, и на поле<br>сиротков не въступуи, поне-<br>же ближнии их силен ест,<br>и он судити будеть противу<br>тобѣ прю их. Да внидет<br>ко научению сердце твое,<br>и уши твое ко словом<br>умения. | Ne dotykayse<br>mezij maliczkich, a na pole<br>syrotkom ne wkraczey, ne bo<br>przijbuzny gich gestit'<br>naysylnieyssij, a on to suditi<br>bude proti tobe przy gich...<br>...a ussy twe k slowom<br>umenije. |
| (15-19). Сыну мои, будет<br>ли мудра душа твоя, радо-<br>ватися будет с тобою<br>сердце мое, и веселитися<br>будут лядви мои, вънегда<br>правду възглаголют уста<br>твоя. Да не неслѣдует<br>сердце твое грѣшников,<br>но в страсѣ Божїи пре-<br>буди весь день, будешь<br>убо имѣти надежду въ<br>послѣднїи час, и чаянїе<br>твое не отимется от тебе.<br>Послушаи сыну и буди<br>мудр, исправи мысль твою<br>по пути правом. | Сыну мои, будеть<br>ли мудра душа твоя, радо-<br>ватися будеть с тобою<br>сердце мое, и веселитися<br>будуть лядви мое, внегда<br>правду возглаголють уста<br>твоя. Да не наследуеть<br>сердце твое грешников,<br>но в боязни Божиеи пре-<br>буди вес день, будеш<br>убо имети надежу во<br>послѣднии час, и ожидание<br>твое не отимется от тебе.<br>Послухаи сыну и буди<br>мудр, и съправуи мысль твою<br>по пути правом. | ...ale bude cely den<br>w bazni Božye. |

Той самы тэкст у «Астрожскай Бібліі» пачынаецца наступным чынам:

> Не прелагаи предѣл вѣчных, въ стяжанїе сиротам не вниди, избавляя бо их Господь крѣпок есть, и разъсудит суд их с тобою. Даждь въ наказанїе сердце твое, уши же свои уготоваи словесем чювьственным.

З вышэй прыведзеных прыкладаў можна бачыць, што укладальнік тэкстаў у падручніку Фёдарава карыстаўся Скарынінскім выданьнем і толькі часткова зьмяніў мову Скарыны, стараючыся прыблізіць яе да царкоўнаславянскай. У прыватнасьці ён зьмяніў тыя

**ніе**, выданай у Вільні ў 1596 г. Адзіны ведамы экзэмпляр гэтай кнігі знаходзіцца ў бібліятэцы Trinity College у Кэмбрыдж. Слова «буквар» у тытуле пачало ўжывацца толькі ў XVII стаг.

[3]) Jakobson, с. 25.

[4]) Лукьяненко, с. 223.

[5]) П. В. Владимиров, **Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык**, СПб, 1888, с. 128—171; А. В. Флоровский, «Чешская Библия в истории русской культуры и письменности», **Sbornik filologický**, XII, Praha 1940—46, с. 166—186.

[6]) Пры перадачы тэкстаў Скарыны і Фёдарава прыняты ў галоўным правілы выпрацаваныя А. Коршуновым (гл. яго **Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры**, Мінск 1959, с. 3—4). Літара **ъ** («цьвёрды знак») захавана ў сярэдзіне слова, пасьля прыставак і пасьля прыназоўнікаў **в, к.** У канцы слова яе напісаньне не падаецца. Літары **і, и** захаваны без зьмен.

месцы, дзе ў Скарыны адчуваўся асабліва ўплыў чэшскай Бібліі.

Да выхаду ў сьвет «Астрожскай Бібліі» ў 1581 г. кнігі Старога Запавету ў царкоўнаславянскім перакладзе існавалі толькі ў рукапісных сьпісках. Усе яны, за выняткам Псалтыра, былі вельмі рэдкімі. Таму вельмі магчыма, што укладальнік тэкстаў у падручніку Фёдарава ня меў пад рукою царкоўнаслявянскага экзэмпляра Прыповесьцяў Саламона і выкарыстаў больш даступнае выданьне Скарыны.

Справа выглядае інакш з выбранымі тэкстамі з пасланьняў сьв. Паўла. Усе яны ўзятыя з кнігі, якая звычайна завецца «Апосталам». У адрозьненьне ад кніг Старога Запавету, гэта была адна з найбольш ведамых і распаўсюджаных царкоўных кніг, бо яна была патрэбная пры адпраўленьні сьв. літургії. Першы выдаў друкам «Апостал» Францішак Скарына ў Вільні ў 1525 годзе. Ягонае выданьне было, аднак, прызначанае не для царкоўнага ўжытку, але для сьвецкіх людзей, і таму мова яго розьнілася значна ад традыцыйнай царкоўнаславянскай. Іван Фёдараў першы выдаў царкоўнаславянскі тэкст «Апостала» ў Маскве ў 1564 г. Дзесяць гадоў пасьля, ў 1574 г., ён перавыдаў яго ў Львове. Тэкст абодвух выданьняў, калі не лічыць нязначных арфаграфічных розьніцаў, ідэнтычны. Паколькі ў тым самым 1574 годзе Фёдараў выдаў таксама падручнік, дык можна было думаць, што пры ўкладаньні тэкстаў для чытаньня ён выкарыстаў свой «Апостал». Параўнаньне, аднак, паралельных тэкстаў паказвае, што маецца справу з дзьвюма розьнымі, хоць блізкімі, рэдакцыямі, як можна бачыць з наступных прыкладаў:

| Падручнік Фёдарава (Львоў 1574 г.) | «Апостал» Фёдарава (Львоў 1574 г.) |
| --- | --- |
| (Эф. 6, 4). Отцы не раздражаите чад своих, но въспитаите их въ наказанїи и ученїи Господни, въ страсѣ Божїи... | Отцы не раздражаите чад своих, но воспитаваите их въ наказанїи и ученїи Господни... |
| (Кал. 3, 13-16) ...приемлюще друг друга, и прощенїе дарующе, аще кто къ кому пореченїе имать, яко же и Христос дарова нам, тако и вы. Надо всѣми ж сими любовь яже есть съюз съвершенїю, и мир Божїи да раздѣляется въ сердцых ваших, вънеже и звани бысте въ едїно тѣло, и благодарни бываите. Слово Христово да вселяется въ вас богатно, въ всякои премудрости учаще и наказующе себе въ псалъмѣх и пѣнїих, и пѣснех духовных, о благодати поюще въ сердцых ваших Господеви. | ...прїемлюще друг друга, и утажающе себѣ, аще кто на кого имать пореченїе, яко же и Христос угодил есть вам, тако же и вы. Надо всѣми же сими стяжите любовь, яже есть съуз совершенства, и мир Божїи да въдваряется въ сердцых ваших, внеже и звани бысте въ едїно тѣло. Благодарни бываите. Слово Христово да вселяется въ вас богатно, въ всякои премудрости, учаще и вразумляюще себе самѣх въ псалмѣх и пѣнїих, и пѣснех духовных, о благодати поюще въ сердцых ваших Господеви. |

Абодва тэксты значна розьняцца ад паралельных месцаў у «Апостале» Скарыны:

> И вы отцеве не раздражаите чад своих, но воспитаите их в наказаннїи и в наученїи Господнем... приемлюще друг друга и отпущающе собѣ аще кто на кого имать жалобу, яко же Господь отпустил грехи вам, тако и вы инем. Над все пак сие, любовь имеите, еже ест соуз совершению, и мир Христов да размножается во серцах ваших, о нем же и звани бысте во едино тѣло , о том и благодарни бываите. Слово ж Христово да вселиться в вас богатно,во всякои премудрости учаще и наказующе себе вокупе, во псалмех и во похвалах, и во пѣснех духовных, во благодати поюще в серцих ваших Господеви.

Лук'яненка паказала, што тэксты пасланьняў сьв. Паўла ў падручніку Фёдарава амаль ідэнтычныя з тэкстамі ў рукапісных сьпісках «Апостала» ўсходнеславянскай рэдакцыі XV — пачатку XVI стагодзьдзяў, г. зн. «дафёдараўскага» пэрыяду[7]).

З усяго вышэй сказанага выглядае, што, як заўважыў Джэкабсан яшчэ ў 1955 г.[8]), Фёдараў ня быў укладальнікам павучальных тэкстаў у сваім падручніку, але выкарыстаў гатовыя ўжо тэксты, падрыхтаваныя некім іншым. Укладальнік карыстаўся Скарынінскім выданьнем Прыповесьцяў Саламона (або нейкім сьпіскам, зробленым з гэтага выданьня) і рукапісным сьпіскам «Апостала» у царкоўнаславянскай мове. Ён ня ведаў Фёдараўскага выданьня «Апостала» і таму трэба думаць, што падбор тэкстаў быў зроблены перад 1564

[7]) Лукьяненко, с. 224—25.
[8]) Jakobson, с. 26.

годам, магчыма нават у першай палове XVI стагодзьдзя. Можна было б паставіць пытаньне, ці Фёдараў быў аўтарам усяго падручніка, ці толькі друкаром, але канчатковага адказу на яго сёньня даць немагчыма. Хто б аднак ня быў аўтарам Фёдараўскага падручніка, для беларусаў ён цікавы, як яшчэ адзін доказ пашырэньня выданьняў Скарыны за межамі Беларусі і іхняга ўплыву на разьвіцьцё культуры сярод усходніх славянаў.

---

# Сьвятая Агнешка — Дзева і Мучаніца

Дзьве стройныя рымскія сьвятыні, пастаўленыя ў гонар Сьв. Агнешкі; яны служаць важным доказам, як глыбокую памяць пакінула Сьвятая па сабе ў народзе і як тую памяць умелі належна ўшанаваць патомныя хрысьціяне. Першая сьвятыня-базыліка стаіць на ўкраіне Рыму там, дзе быў калісь дом Агнешкі, дзе яна жыла і гадавалася, а па сьмерці была пахавана: другая сьвятыня — ў цэнтры гораду, дзе яе — хрысьціянку — ўвязьнілі і цяжка мучылі паганцы. Памятка па Агнешцы захавалася пры першай сьвятыні. Гэта катакомбы — даўнейшы магільнік хрысьціянскі, якога гісторыя цесна зьвязана з пахаванай там Сьвятою. Успомніць такжа можна і тыя асаблівыя цырымоніі пасьвячэньня 2-х белых ягнятак, з каторых воўны пасьля робіцца спэцыяльны для арцыбіскупаў шкаплер або паліуш. Усё гэта нам гаворa, якая жывая памяць па Агнешцы сярод верных.

Чым-жа, пытаем, Агнешка гэтак слаўная? Сьв. Амброжы адказывае тут коратка: «Даволі назваць яе мучаніцай, каб ужо сказаць аб ёй усё». Вось-жа разгледзім, чым яна жыла, што ўсім сэрцам любіла і за што жыцьцё аддала?

Будучы багатага роду, а прытым, як дачка пабожных бацькоў хрысьціян, маладая Агнешка атрымала ўзгадаваньне пад усякім узглядам найлепшае. Краса яе цялесная і прыродныя багацьці духу ў праменьнях цноты і ласкі Божай тварылі з яе ў сваей гармонійнай лучнасьці сапраўды прыгожую істоту, поўную нязвычайнага чару і пекнаты надземнай.

Выдатнае было ў ейнай сьвятасьці тое, як яна прадстаўляла свае адносіны да Хрыста. Хрыстос для яе — гэта Малады, а яна — Маладуха. Аб сваім мілым яна кажа: «Ніхто на зямлі з ім раўнавацца ня можа. Яму служаць анёлы, а сонце і месяц дзівяцца з ягонай прыгожасьці. Яго, калі люблю, чыстай астаюся: з ім жывучы, дзевай быць не перастану. Чыстасьць дзявочага сэрца — гэта пасаг, якога ён ад мяне дамагаецца. Не зраблю ніколі і Яму і сабе крыўды і не адвярну сэрца свайго да кагось другога, бо прыгожасьць, магутнасьць і чар Мілага майго ўвесь род людзкі перавышае».

Разумеецца, што і Мілы яе адказаў ад сябе тою-ж сардэчнай прыхільнасьцю. «Ён — далей кажа яна — даў мне сукню золатам шытую, узлажыў на мяне нашыйнік з дарагіх пэрлаў, а ў вушы кольчыкі вартасьці неацэнянай. Прыадзеў мяне мой Мілы вопраткай збаўленьня і радасьці і як Маладуху сваю вянком мяне упрыгожыў. Ён гэтак пpаняты мною, што даў мне знак, каб іншага нікога апроч яго не любіла. І паказаў мне скарбы незраўнаныя, абяцаючы, што аддасьць мне іх назаўсёды.»

Магчыма, што задзівіць каго немала гэткі настрой Агнешкі. Сказаць бы можна, што гэта буйная фантазія маладой дзяўчыны ўзгадаванай у зацішнай атмасфэры катакомбаў, атмасфэры тагачаснага хрысьціянскага сьвету, каторы цярпеў і хаваўся перад жорсткім прасьледам паганскім. Вось-жа не! Даволі глянуць на бачыны Эвангельля, услухацца ў голас Бога-Чалавека, адчыніць пісьмы сьвятых апосталаў Пятра, Паўла, Яна, прагледзіць жыцьцё і практыку першых хрысьціян, каб разьвеяць тыя сумнівы. якія маглі-б паказацца адносна настрояў Агнешкі. Рэч ясная, што гэткія настроі кіруюцца законамі Божай ласкі ў душы чалавека. Але прызнаць трэба і тое, што гэныя настроі маюць свой падклад у праўдзівай веры Хрыстовай. Агнешка любіла Хрыста, але прытым ведала, хто Ён і чаму можна яму аддаць усю сваю істоту. Заслуга Агнешкі ў тым, што яна верна адгукнулася на голас свайго мілага і тую вернасьць захавала да самай сьмерці.

Агнешка, 13-летняя дзяўчына, дужа спадабалася маладому рымляніну, сыну важнага урадоўца, каторы рашуча прасіў яе, каб згадзілася быць ягонай жонкай. Якое-ж было ягонае зьдзіўленьне, калі Агнешка адаслала назад прысланыя гасьцінцы з адмоўным ад-

казам. Пачалі шукаць прычыны гэтай прыкрай адмовы. Аказалася са слоў Агнешкі, што ейнае сэрца ўжо занята другім Мілым, нязвычайна багатым і слаўным і прыгожым і што да нікога іншага яна належыць ня можа. Скора дагадаліся, што яна мела на думцы не звычайнага хлапца, але як хрысьціянка злажыла ў ахвяру сэрца сваё любаму, якому «служаць анёлы». Затое ўся справа выглядала цяпер маладому паганцу прасьцей: Агнешку, як хрысьціянку, лягчэй будзе дэкрэтам праз суд прымусіць вырачыся гэткіх думкаў. Бацька маладога, будучы высокім рымскім урадоўцам, меў права паклікаць Агнешку да сябе на суд. Тут стаў ён ласкай, а пасьля пагрозай пераконываць яе пакінуць хрысьціянскія звычаі і пайсьці замуж за яго сына. Спакуса маладой дзяўчыне была не малая: трымаючыся хрысьціянскай веры, бачыла перад сабою вязьніцу, цырк, дзікіх зьвяроў, найгоршыя мучэньні і ў канцы сьмерць: а, паддаўшыся спакусе, знайшла-б у рымскім грамадзянстве высокае паважаньне, а з мужам спакойнае сямейнае шчасьце.

Аднак шчырая, гарачая любоў можа зламаць усе перашкоды: яна мацнейшая за ўсё на сьвеце. «Ніхто, адказывае Агнешка, маім Мілым ня буддзе, адно толькі Хрыстос. Ніколі іншага ня прызнаю Бога, як толькі таго, што стварыў неба і зямлю». Разумеецца, што на гэтыя словы судзьязя адказаў ужо ня інакш, як толькі фізычнай сілай. «Не згаджаешся Э ён кажа — на тое, чаго цябе прашу і што табе загадываю, дык зара тваё дзявоцтва аддам на ганебную паняверку, а пасьля загінеш і сама ў нячуваных мучэньнях». «Уся мая надзея ў Богу», — адказала сьвятая. «Той, каму я аддала сваё сэрца, ёсьць такі магутны, што абароніць мяне ад твайго злачынства і не дапусьціць такой ганьбы майму дзявоцтву. Хоць я яшчэ маладая і слабая, спадзяюся аднак, што з ласпрыняць сьмерць для Таго, хто за мяне ахвяраваў сваё жыцьцё на крыжы».

Колькі разумнага такту выказвае тут маладая дзяўчынка, як зырка глядзіць у прышласьць і якую выказывае веру і адвагу!

І надзея Агнешкі ня была дарэмнай. Ад той ганьбы анёл Божы ўратаваў яе цудоўна. Целу Сьвятой Мучаніцы Бог даў такую яснасьць, што проста асьляпляла тых нягоднікаў, якія сьмелі прыступіць да яе. Расказываюць, што сын таго судзьдзі быў тут-жа пакараны раптоўна сьмерцяй: толькі на гарачыя прозьбы бацькі. Агнешка сваей малітвай вярнула яму жыцьцё. Пасьля гэтага ён. пакінуўшы думку аб жанімстве, славіў сам праўдзівага Бога па ўсім Рыме. Убачыўшы ўсё гэта, судзьзя зусім зрокся свайго абавязку. Другі судзьдзя, заўзяты паганец, загадаў Агнешку спаліць жывую на вачох грамады цікавых людзей. Аднак агонь не чапаў ейнага цела. Адны уважалі гэта за цуд, але другія называлі Агнешку чараўніцай. Яна-ж, узнёсшы свае рукі да неба, малілася: «Божа, што мяне чыстую душой і целам, захаваў ад граху паміж злачынцаў. Вось іду да Цябе, каторага любіла, якога ўсьцяж шукала».

Судзьдзя пачаў баяцца, каб такі вялікі цуд ня выклікаў паміж народам закалоту, ці бунту ў абарону Агнешкі і загадаў адсекчы ёй галаву. Але кат ня меў адвагі прыступіць да справа. Тады сама Агнешка яго асьмеліла. «Ня бойся, кажа, прычыніць сьмерць майму целу, бо гэта будзе мне пачаткам вечнага жыцьця». Аж кат споўніў сваё, а чыстая як крышталь душа Агнешкі ўзляцела на неба. Сталася гэта 21-га студзеня 303 году. Паводле рымскага закону цела засуджаных аддавалі родным, якія маглі пахаваць яго, дзе самі хацелі. Такім чынам Агнешка была пахаваная ў маемасьці сваіх бацькоў.

Шмат цудаў дзеілася пры ейным гробе. Між іншымі Канстанцыя, дачка імпэратара Канстантага Вялікага, аздаравела там з цяжкой хваробы, за што ўпрасіла бацьку паставіць у гонар Сьвятой над яе магілай прыгожую базыліку. Базыліка, старадаўная, вялікая, прыгожая, пры вуліцы Номэнтана і тамжа катакомбы прыцягваюць пілігрымаў, якія любяць Сьвятую Мучаніцу Агнешку.

Часта малююць Агнешку з анёлам, які сьцярог яе ад зьнявагі або з галінкай-пальмай у руках — на знак перамогі, а найчасьцей з ягняткам, якое яна трымае на руках, бо так яна паказывалася па сьмерці сваім бацьком. Ягнятка ёсьць сымбаль самога Хрыста, які быў забіты бязьвінны за нас грэшных, як ахвяра выкупленьня. Пасьля трагічнай сьверці Агнешка стала шчасьлівай і на векі неразлучнай з сваім Улюблёным. (Урэшце-ж і само слова «Агнешка» або «Ягнешка», як кажуць беларусы, у лацінскай мове значыць ягнятка).

Узмагай-жа, просім, Шчасьлівая Дзяўчынка, веру, надзею і любоў да Хрыста і ў нашых сэрцах! Асабліва ў нашых часох, калі бязбожнікі нішчаць Божыя сьвятыні і адбіраюць веру ў нашай краіне нам трэба вялікай ласкі Божай, помачы, апекі, прыкладу і малітвы Сьвятых Мучанікаў. Сьвятая Агнешка, маліся за нас!

# На кніжнай паліцы

Выйшлі з друку наступныя кніжкі:

Уладзімер Глыбінны, НА СЬВЯТОЙ ЗЯМЛІ, выдавецтва «Божым Шляхам», Лёндан, 1972, бачын 119, цана £ 1.00. Сабраны матар'ял, які друкаваўся праз нейкі час у час. «Божым Шляхам». Усе тыя, што цікавяцца Палестынай, бацькаўшчынай Збаўцы роду людзкога, Ісуса Хрыста, скарыстаюць з гэтай сымпатычнай кніжкі.

✳

Паўла Урбан, У СЬВЯТЛЕ ГІСТАРЫЧНЫХ ФАКТАЎ (у сувязі з брашурай Л. С. Абэцэдарскага), Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва. Коштам Фундацыі ім. Пётры Крычэўскага, Мюнхэн—Ню-Ёрк, 1972, бачын 130, цана £ 2.00.

✳

Рыгор Крушына, ВЯСНА ЎВОСЕНЬ, Ню-Ёрк—Мюнхэн, 1972, бачын 128. Зборнік лірычных вершаў у прыгожай вокладцы. Цана £ 1.50.

✳

Іван С. Любачко, BELORUSSIA UNDER SOVIET RULE, 1917—1957. The University Press of Kentucky, 1972. Бачын XIII + 219. Цана $ 10.00. Кніга апрацаваная на аўтэнтычных крыніцах, знаёміць англа-моўны сьвет з найнавейшай гісторыяй Беларусі, у першую чаргу з БССР.

✳

Е. Зубковіч, КРАЙ МОЙ ВАСІЛЬКОВЫ. 12 песьняў на сярэдні голас з фартэпіянам. Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва. Ню-Ёрк, 1972, бачын 31. Цана $ 2.00. У прадмове да гэтага вартаснага зборніка Алесь Карповіч піша: «Песьні Е. Зубковіч — удзячны матар'ял для выканаўцы... Бясспрэчныя годнасьці лірычных песьняў Е. З. даюць усе асновы ўважаць, што яны зоймуць трывалае месца ў канцэртах беларускае і сусьветнае музыкі». Зьмешчаны наступныя песьні: Якуба Коласа: «О, край родны», «Дарога»; Алеся Гаруна: «Восень», «Ветру» і Міхася Кавыля: «Я душу нявыгодна параніў», «О, ты край мой залаты»; Натальлі Арсеньневай: «Калыханка», «Мроя», «Вясновы вечар», «Знае сэрца», «Асеньняя песьня», «Родны край».

✳

FACTS ON BYELORUSSIA, News Bulletin. Пачынаючы ад месяца мая г. г. (1972) пачаў выходзіць пад рэдакцыяй др. Янкі Запрудніка Інфармацыйны Бюлетэнь у ангельскай мове. Мэтай яго ёсьць аўтэнтычная інфармацыя аб Беларусі так сваіх як і чужых, асабліва беларускую моладзь, якая нарадзілася і расьце навонках Бацькаўшчыны. Цана Бюлетэню: $ 5.00 за 10 нумараў.

Адрас выдаўцы: P. O. Box. Grand Central Station, New York, N. Y. 10017, U.S.A.

✳

УВАГА! — УВАГА! — УВАГА!

Беларуская Бібліятэка і Музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане зьвяртаецца да суродзічаў з просьбай прысылаць кніжкі, часапісы, рукапісы, лятучкі, прадметы — усё, што адносіцца да гісторыі, культуры і быту Беларусі або беларусаў, дзе-б яны не прабывалі. Просім такжа не забывацца аб матар'яльных патрэбах нашых беларускіх установаў, якія не сплацілі яшчэ доўгу за набыты дом. Няхай кожны беларус-патрыёт у сваім тэстаманце (апошняе распараджэньне) помніць і пра Беларускую Бібліятэку-Музэй-Архіў у Лёндане!

*Управа Б. Б. і М.*

Лёндан.
1 лістапада 1972.

## ДЭКРЭТ АБ АГУЛЬНЫМ РАЗГРАШЭНЬНІ

Нядаўна Апостальскі Пасад выдаў Дэкрэт, якім дазваляецца атрымаць адпушчэньне грахоў без асабістай споведзі. Там, дзе сьвятар ня здолее выспавядаць усіх вернікаў, асабліва ў місыйных краях, ён можа астаўшымся даць агульнае разграшэньне і дазволіць ісьці да сьвятога Прычасьця (Камуніі). Аднак кожны павінен узбудзіць жаль за грахі, учыніць моцную пастанову папраўы, вынаграджэньня крыўдаў дый пасьля спавядацца асабіста пры першай магчымасьці. Жаданьне Дакрэту ёсьць тое, каб людзі не адходзілі ад сьвятара з грахамі і маглі прыступіць да сьвятых сакрамантаў.

Такая практыка была ўжо ў даўных часах, асабліва ў небясьпецы сьмерці. Цяпер-жа, як бачым, гэтая практыка больш пашыраецца.

## ЭКУМЭНІЧНЫ ДЭКРЭТ

Агульныя заўвагі: справа датычыць таго, каб добрыя людзі маглі карыстаць з Божае ласкі, нават ня будучы каталікамі, а каталікі ў вялікай патрэбе каб маглі прыступаць да сьвятых сакрамантаў у чужых сьвятынях, як гэта дзеіцца ў краях атэізму. Трэба аднак бачыць, каб не псаваць адносінаў з духавенствам іншых веравызнаньняў і не рабіць гэтага без паважнае прычыны дый не дапускаць у сваіх сьвятынях адзінак, якія не маюць належнае веры ў нашыя сакраманты і пашаны да іх.

Адносна ПРАВАСЛАЎНЫХ няма труднасьцяў, бо наўзаем з каталікамі яны маюць важныя сьвячэньні і важныя тайны, значыць, можна дапускаць іх да нашае камуніі і нашым вернікам хадзіць да іхняга прычасьця.

Але адносна ПРАТЭСТАНТАЎ і іншых хрысьціянаў труднасьць і асьцярожнасьць павінна быць большая, асабліва да тых, якія ня маюць у сябе ані споведзі, ані прычасьця.

## «ІНДУІЗАЦЫЯ» ЛІТУРГІІ

У Індыі Каталіцкая Царква дапускае ў Літургіі буддыйскія звычаі. Там не становяцца на калені, але аддаюць паклоны са зложанымі рукамі. Замест сьвечак паляцца аліўныя лямпачкі і кадзіла заменяецца тым, што ў асобнай пасудзіне курыцца фіміям. Дапускаецца музыка і сьпеў у адпаведных мясцовых мэлёдыях і на краёвых інструмантах. І сьвятары адпраўляюць сьвятую Літургію басанож...

Некаторыя каталіцкія біскупы супрацівіліся гэтаму, аднак наагул пераважна прызналі вялікую патрэбу і карысьць, так наз., адаптацыі — датасаваньня, каб Каталіцкая Царква сьцерагляся чужаземнага характару і не навязвала свабей культуры, зьвязанай з даўнейшым «імпэрыялізмам».

## БУДДЫЙСКІЯ МАНАХІ Ў ПАПЫ

Папа прыняў на спэцыяльнай аўдыенцыі групу буддыйскіх манахаў. У прамове падкрэсьліў патрэбу ажыўленага дыялёгу між буддыстамі і каталікамі. Такі дыялёг прычыніўся-б да большага духовага узбагачэньня адных і другіх. А таксама быў-бы вельмі карысным для справы справядлівасьці і супакою на сьвеце.

## ЗАКОН БУДАЎНІКОЎ

Заінаваў гэты Закон пасьля II-ой сусьветнай вайны. Мэта яго: памагаць бедным у будаваньні неабходных прыватных і грамадзкіх дамоў і інш. аб'ектаў, як школы, шпіталі, сіраціньцы, дамы для старых і недалужных. Члены Закону ангажуюць сьвецкіх людзей і кандыдатаў да такой працы наагул не бракуе. Гэта ёсьць праца ахвярнага міласэрдзя. З самой Аўстрыі зьявілася да ахвярнай працы да 110 тысяч чалавек. Творацца падобныя групы, якія працуюць у розных краёх сьвету.

## БОЖАЕ СЛОВА — БІБЛІЯ Ў МОВАХ СЬВЕТУ

Гэаграфічнае Таварыства ў Вашынгтоне паведаміла, што Біблія перакладзена на 1473 мовы і дыялекты дый яшчэ перакладаецца на 500 моваў, пераважна ў Афрыцы. Некаторыя пераклады трывалі да 100 гадоў, пакуль зьявіліся ў друку. Сярод мноства гэтых перакладаў існуюць таксама і беларускія, пачынаючы ад Францішка Скарыны ў 1517 годзе.

## КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА І СУСЬВЕТНАЯ РАДА ЦЭРКВАЎ

Нядаўна Мяшаная Камісія — Рада Цэркваў і Каталіцкая Царква — супольна прыйшлі да праканаваньня, што яшчэ справа прыналежнасьці Каталіцкай Царквы да іхняе супольнасьці не дасьпела. Аднак гэта ня перашкаджае ім разам супрацоўнічаць і далей у справе адзінства хрысьціянства і ў іншых сусьветных патрэбах, асабліва ў помачы бедным народам.

## АДРАДЖЭНЬНЕ РЭЛІГІІ Ў НІГЕРЫІ

Паводле рэляцыі місіянэраў у гэтым краю, асабліва ў нешчасьлівай Біяфры, пасьля трагічнай хатняй вайны, узьнікае большае рэлігійнае ажыўленьне. Зьяўляецца нямала прызваньняў да сьвятарства і да законнага стану. Духоўныя сэмінарыі напаўняюцца кандыдатамі да сьвятарства. Узьнікае патрэба новых сэмінарыяў, але, на жаль, бракуе на гэта сродкаў.

ЛЕТУВА — У сувязі з рэпрэсіямі, якія наступілі па пратэстах і зьбіраньні подпісаў супраць прасьледу рэлігіі ў Савецкай Летуве, біскупы ў пастырскім лісьце перасьцерагаюць вернікаў перад пасьпешнай і нерастаропнай акцыяй. Такія выступленьні больш прыносяць шкоды, чым карысьці для Царквы. Таксама трэба паўстрымацца і ня выступаць афіцыялына ў абароне рэлігіі бяз веды і пазваленьня духоўнае ўлады. Апрача гэтага біскупы павучаюць вернікаў аб Хрыстовай Царкве і выяўляюць радасьць з веры і пабожнасьці, якая ў каталікоў, ня гледзячы на цяжкія ўмовы, трымаецца, паглыбляецца і перадаецца новаму пакаленьню.

ЮГАСЛАВІЯ-ХАРВАЦЫЯ — У горадзе Спліт была праведзена школьная анкета ў справе рэлігіі. Пераважная колькасьць вучняў адказала, што «рэлігія патрэбная‘! Значная колькасьць бывае на Літургіі кожны тыдзень. Цікавая была-б падобная анкета ў Беларусі, каб там моладзь мела свабодны голас.

I ў Югаславіі з 1973 годам уваходзіць у жыцьцё новая Канстытуцыя, паводле якой кожны асобны край будзе сам рашаць рэлігійныя адносіны. Раней усе справы рэлігіі рашаліся ў цэнтралі дзяржавы, значыць, у Белградзе. А цяпер справы упросьцяцца, аднак аблягчэньне для вернікаў стане больш залежным ад мясцовай улады і атэістаў, якія будуць кантраляваць царкоўнае жыцьцё. I ўжо практыка паказала, што камуністы разумеюць закон аб разьдзеле рэлігіі і дзяржавы, што магчыма аддзяляць рэлігію ад вернікаў! I з гэтага плыве агранічэньне Царквы і ўсялякае свабоды рэлігіі, недапусканьне моладзі да сьвятыняў і іншыя праявы прасьледу.

ІНДЫЯ — Каталікі ў Індыі бароняць свае школы, асабліва ў правінцыі Кераля, дзе каталікоў немалы лік. У большых гарадах адбыліся дэманстрацыі ў абароне школаў. У выніку стараньняў наступіла ўгода, што некаторыя школы прынялі ўрадовую помач і затое паддаліся частковай кантролі з боку ўраду.

КАНСТАНТЫНОПАЛЬ — Пасьля сьмерці патрыярха Атэнагораса I ягоны насьледнік быў выбраны Сынодам, Дэмэтрыос I. Ён наймалодшы (58) з усіх кандыдатаў. Турэцкі ўрад прызнаў гэтага кандыдата, бо ён мае турэцкае грамадзянства.

Папа Павал VI выслаў новаму патрыярху тэлеграму з найлепшымі пажаданьнямі і заклікаў да супрацы ў справе адзінства Хрыстовае Царквы. Між іншым пісаў: «У Рымскім Біскупе знайдзе Вашая Сьвятасьць любячага брата, які жадае працяваць імкненьні да так горача пажаданага Вашым Вялікім Папярэднікам дня, ў якім знайдзенае адзінства станецца канчаткова запячатаным».

Патрыярх Дэмэтрыос I ў адказ Папе дзякаваў за жаданьні. Прамаўляючы ў часе свайго інтрэсу, прывітаў іерархаў Праваслаўнай Царквы і Галовы іншых Цэркваў, асабліва Паўла VI і Архібіскупа Др. Рамсэя. Папу, як Рымскага Біскупа, назваў «першым сярод роўных у Хрыстовай Царкве», найстаршым братам, Біскупам найстаршай (Рымскай) Царквы і Патрыярхам Захаду. Аб сабе ён сказаў: «Мы будзем першымі да служэньня другім, але апошнім у вымаганьні сабе якіх-небудзь гонараў». А пры гэтым выявіў гатоўнасьць супрацоўнічаць з Рымскім Папам у справе злучэньня Цэркваў, ідучы сьледам свайго папярэдніка.

ПАЛЕСТЫНА — Да Найвышэйшага Суду ў Ерузаліме прыйшла заява вучонага Давіда Біттана з гор. Эй-лет над Мёртвым морам, аб узнаўленьні і рэвізіі працэсу і прысуду на Ісуса Хрыста. Але Суд адкінуў заяву Біттана, бо — казалі — гэты працэс ужо належыць да гісторыі і Хрыстос быў асуджаны ня жыдоўскім народам, але прадстаўніком Рымскае ўлады. Але сама думка Біттана аб рэвізіі працэсу Хрыста ёсьць вельмі арыгінальная і цікавая. На тэму гэтага выдарэньня напісана ўжо нямала навуковых працаў.

РЫМ і ЛЮРД — Кардынал ДЭЛЬ-АКВА: Гэты кардынал (69) нагла памёр у гор. Люрд у Францыі. Ён прыбыў у Люрд з вялікай пілігрымкай з Італіі. Яшчэ ў гэты дзень Дэль-Аква праводнічыў на сьвятой Літургіі з 300 сьвятарамі ў базыліцы сьв. Пія X-га і прамаўляў на францускай і італьянскай мове. Па паўдні вёў працэсію і благаславіў хворых Найсьв. Сакрамантам, бо няраз здаралася, што ў такі момант хворыя бывалі уздароўленыя. А вечарам кардынал браў удзел у працэсіі з сьвечкамі. У змроку гэтая працэсія з песьнямі цудоўна выглядае («Авэ-Авэ, Марыя!»). I падчас працэсіі неспадзявана упаў і сканаў: — Відаць, што за ўвесь працавіты дзень кардынал перамучыўся . . . — Дэль-Аква быў вікарым гор. Рыму, як заступнік Папы, які ёсьць звычайна Біскупам Рыму.

### ПОСЬПЕХ БЕЛАРУСКАГА ВУЧНЯ

Вучань Школы сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане Марк Саўка-Міхальскі пасьпяхова скончыў сярэднюю школу і паступіў у Школу славянскіх і ўсходняэўрапэйскіх студыяў на Лёнданскім унівэрсытэце.

### БЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА

Byelorussian Heritage in London (Беларуская спадчына ў Лёндане) — гэтак называлася выстаўка, якая адбылася ў кастрычніку ў Чэрч Фарм Гауз Мюзэум у паўночнай частцы Лёндану Гэндан. Выстаўка была наладжана з ініцыятывы мясцовай публічнай бібліятэкі у супрацоўніцтве з Беларускай бібліятэкай і музэем ім. Францішка Скарыны, адкуль былі ўзяты ўсе экспанаты. Сярод гэтых экспанатаў было шмат кніг (арыгіналаў і фатакопіяў), якія ілюстравалі гісторыю беларускага кнігадрукаваньня ад Францішка Скарыны аж да сёньняшняга дня. Былі таксама кнігі у розных мовах пра Беларусь, або якія мелі некае дачыненьне да Беларусі. Сярод гэтых апошніх была кніга Тэзэо Амброзіо «Інтродукцыё ін халдаікам лінгвам», выданая ў Павіі ў 1539 годзе, з тэкстам з Бібліі Скарыны ў лацінскай транскрыпцыі. Ня менш цікавымі былі калекцыі картаў і грошай Вялікага Княства Літоўскага з XVI—XVII стагодзьдзяў, а таксама старыя рукапісы, сярод якіх былі прыклады пісьменства беларускіх татараў арабскім пісьмом. Асобную частку выстаўкі складалі арыгінальныя слуцкія паясы, прыклады беларускага народнага ткацтва, вышыўкі і ганчарства, а таксама іконы і розныя прадметы рэлігійнага ўжытку. Выстаўка была ўладжана па-мастацку. Пры ўсіх экспанатах былі паясьненьні ў ангельскай мове. Апрача гэтага ангельскія арганізатары выдалі брашурку-праграму з кароткімі весткамі пра Беларусь, Бібліятэку і музэй ім. Ф. Скарыны і з апісаньнем экспанатаў.

Выстаўка трывала цэлы месяц і цешылася вялікай папулярнасьцяю. Яе наведвалі ня толькі адзінкі, але арганізаваныя школьныя і іншыя групы. Пра яе гаварыла Лёнданскае радыё і пісала мясцовая прэса.

Не абышлося і без інцыдэнту. Нейкі Джэк Уэлбы заатакаваў у прэсе ангельскую бібліятэку за тое, што яна зарганізавала беларускую выстаўку у часе, калі Савецкі ўрад праследуе жыдоў. У сваім пратэсце ён успомніў таксама прозьвішча бурмістра паўночнай часткі Лёндану Барнэт (да якой належыць Гэндан), Дж. Фрыдмана, які быццам падтрымаў яго. У выніку гэтага мясцовыя газэты *Гэндон Таймс* і *Фінчлей Таймс* атрымалі шмат лістоў з пратэстамі супраць пратэсту Уэлбы, а таксама афіцыяльнае запярэчаньне ад бурмістра. Усё гэта было надрукавана і такім чынам уся справа скончылася неспадзявана добра для беларусаў.

З беларускага боку адказным за выстаўку быў а. Рабэрт Тамушанскі і вялікі посьпех яе зьяўляецца ў вялікай меры вынікам ягонай працы.



*На беларускай выстаўцы*

# *Пішуць да нас*

ФРАНЦЫЯ — 15. X. 1972. Паважаны і Дарагі суродзіч Айцец Гэрмановіч!

Ветліва прашу зьмясьціць на балонках Вашага часапісу «Божым Шляхам» пададзеныя мною «Гучныя адгалоскі».

Дня 5-га і 6-га жніўня нашае мястэчка Монтшана мела гонар гасьціць нашага адзінага беларускага Пастыра ў Францыі архімандрыта Льва Гарошку, які сучасна, апрача інтэнсыўнай працы ў Францыі, працуе ў Беларускай Сэкцыі Радыё Ватыкан у Рыме. На просьбу сям'і Трусавых Галіны і Аўгена, каб павянчаць іхных сыноў, ахвотна адгукнуўся, не зважаючы на свой век (60 г.), ані на навал працы, пакінуў Рым і прыляцеў у Францыю, каб выканаць «свой абавязак» (словы а. Льва) — павянчаць сыноў Трусавых. 5-га жніўня ў французскай царкве адбыўся шлюб: гэта першы раз ад пабудовы французскай сьвятыні беларускі сьвятар выканаў тайніцы шлюбу ўва ўсходнім абрядзе і ў беларускай традыцыі двум маладым парам.

Аўтар быў прыбраны жывымі кветкамі ў беларускім колеры бела-чырвона-белым, айцец Леў у белым у беларуска вышытым падрызніку і ў новенькай залацістай рызе, даносным голасам служыў шлюбны малебен, а выдатным голасам сусьпяваў В. Жаўняровіч, а царква была запоўнена народам.

6-га жніўня ў нядзелю айцец Леў адслужыў паніхіду для беларусаў Монтшана — Ля Крэзо, на якой не бракавала суродзічаў любячых Бога і Бацькаўшчыну. Архімандрыт Леў пасьля скромнага абеду у бацькоў маладажонаў ад'ехаў у Парыж, а стуль яшчэ вечарам адляцеў у Рым.

А пасьля ад'езду архімандрыта Льва Гарошкі адбыліся гучныя і мілыя адгалоскі: французскі сьвятар казаў, што колькі ён служыць Богу, ня бачыў такіх добрых хрысьціян як беларусы: у іх Бог адзін і дзе моліцца іхны сьвятар, там яны ўсе грамадна, аднэй сям'ёй прыбываюць славіць Усемагутнага ў сваей роднай мове.

А ў нашых беларускіх сем'ях няма рэлігійнага падзелу: праваслаўныя, рыма-каталікі і грэка-каталікі супольна і гучна пяюць:

«Багаславі нас Маці, Багаславі наш род!
Мы хочам Бога праслаўляці —
Мы беларускі Твой Народ.
Мы хочам Бога!..

Памажы нам, Божа, каб мы маглі славіць Цябе ў нашай роднай мове — ў нашай незалежнай Бацькаўшчыне Беларусі!

*Прысутны*

НЬЮ ЁРК — Мая сытуацыя — адзінокасьць: іншыя яго не перажывалі. Па трох месяцах са шпіталю вывезьлі мяне ў дом паміраючых старых, крыху за горад, у так званы «Нурсінг Гомэ» і таксама, каб чакаў сваей калейкі. І ўва ўсей грамадзе я — наймалодшы пацыент. Яны з дзівам пытаюцца, чаму і я разам з імі? А я сам дзіўлюся, чаму мяне сюды прывезьлі? І ня ведаю, як прывыкнуць, а хуткай сьмерці не спадзяваюся. Вучаць мяне хадзіць, бо па апошнім выпадку страціў ногі да хаджэньня і ежджу на спэцыялльным возіку, аднак ёсьць надзея, што хадзіць буду. Выбачце за марнае пісаньне, бо пісаў, лежучы ў ложку дый вельмі трасуцца рукі — ня ведама чаму?

З вялікай пашанай і з падзякай за памяць

*Боніфацы Прытыцкі*

АЛЬБАНЫ, АЎСТРАЛІЯ — ...такога напісаць не магу, каб Вы маглі друкаваць у «Божым Шляху» — ні з таго, што я не хацела вучыцца. І не вінаватыя бацькі: мы былі ў Расеі і цяжкія гады, стала рэвалюцыя, школы кожны дзень ня было. А ў 21-ым прыехалі ў Польшчу, дык пашла ізноў у школу, тата хадзіў на работу, мама хварэла, была карова, мне трэба было карміць. Прыду ў школу — вучыцель крычыць, чаму спазнілася?.. Чытаю Вашую газэту. У нас ёсьць дзьве жанчыны, адна няграматная, другая няцікавая. А я сама — раматызмы, а работы хоць адбаўляй! І яшчэ нянчу ўнука 19 месяцаў, дачка пашла на работу: яна — мед-сястра. Трэба памагчы; як наша мама глядзела нашых дзетак, як то было добра! Выбачце мне за маё такое пісьмо не харошае, як умела, так і напісала. Каб мы ўбачыліся з Вамі, дык я расказала-б і Вы маглі-б тады пісаць, што хацелі-б.

Будзьце здаровы! Гэтае пісьмо пісала

*Аляксандра Чабатар*

АЎСТРАЛІЯ — З радасьцяй прыняў я вестку, што страйк нашых работнікаў рафінэрыі, які трывае 8-мы тыдзень, канчаецца. Камуністычныя лідэры стараліся рабіць закалот: нарабілі вялікіх шкодаў. Цяпер аб гэтым толькі і гаворыцца, бо прычынілася шкоды і напсавалася нэрваў работнікам і ўсей краіне. Заўтра будуць апошнія мітынгі ў Мэльбурне, у Сыднэй, Брысбэне і ў Адэляйдзе і пачнецца нармальная праца. Праўда, страйкі патрэбныя, калі ня ладзяцца для палітычных метаў.

У нас зіма канчаецца і ўжо пачалі цьвісьці дрэвы, а вясна ажывіць і пацешыць дый дадасьць новай сілы, так патрэбнай людзям, асабліва старшым, як я сам.

І ўсім прывітаньні.

*X.*

ЯШЧЭ АЎСТРАЛІЯ — Прычына майго маўчаньня да Вас, што папсавалася мая машынка да пісаньня. А тут такая краіна, што прыходзіцца доўга чакаць на паправу, бо няма частак да яе і трэ' пасылаць у Эўропу. Дый яшчэ спалучана і з маімі пчолкамі, а здарыўся добры сэзон: зацьвіў эўкаліптус, які цьвіце раз у тры гады, дык я вывозіў вульлі за 30 міль і там яны набралі мне мёду й мёду!.. Прыходзілася езьдзіць туды кожную суботу й нядзелю. Для мяне гэтая зіма была добрая, але для ўсіх і для фармароў магла быць крытычная, а гэта дзеля вады: магло быць агранічэньне вады, але — дзякаваць Богу — ўжо амаль тры тыдні льецца бяз прорвы! Шмат яно памагае, але не зашмат, бо ўжо канчаецца дажджавая пара.

Жадаем Вам вялікага здароўя і сілы.

*К.*



КАНАДА — У нас звычайна; людзі родзяцца, жэнюцца, астаўляюць нейкі прыплод і паміраюць. Хаця-б па статыстыцы нібы родзяцца больш, чым уміраюць, але ў нас беларусоў наадварот. Беларускія дзеячы адыходзяць скарэй, чым надыходзіць папаўненьне. І так нашы «шчылыныя рады радзеюць', але ня крытычна. Доказам гэтага недаўна адбыты «Караван».

З 24 чэрвеня да 1 ліпня 1972 г. у Торонто адбыўся «Караван». Хай не падумае нехта, што тут нешта арабска-экзатычнае. Зусім не! Хаця тэй экзотыкі было даволі.

Як ведама, Канада зьяўляецца мазаікай усіх нацыянальнасьцяў з цэлага сьвету і вось гарадзкая ўправа Торонто кінулася на памысна-карысны трык, каб пазнаёміць гэтыя нацыянальнасьці між сабой бліжэй. Дазволілі адкрыць свой павільён пад назовам сталіцы данай нацыянальнасьці. Ў гэтым годзе былі 44 павільёны. Між іншымі быў і беларускі Менск. Кожны павільён прадстаўляў сабой вялікі бар-рэстарант з асаблівасьцямі народнай кулінарыі, выстаўкай мастацка-народнай рукадзеліі, народнымі песьнямі, танцамі і музыкай. Багацьце выстаўкі, залежала ад данай нацыянальнасьці. Народ, які ніколі ня быў пад акупацыяй і сяньня мае сваю дзяржаву, зразумела пры помачы свайго краю мог паказаць больш. А тыя, якія ня маюць сваей дзяржавы ўжо вякамі, як н. п. Канадзкія Індыяны і Беларусы, — паказалі тое і столькі, колькі яны маюць і могуць.

Паміма ўсяго Беларуская Моладзь, з чыей ініцыятывы павільён быў ладжаны, спісалася выдатна. Зразумела пры помачы старшых «ахвотнікаў» жанчын, якія перад тым і падчас Каравану, папрацавалі безінтэрэсоўна. Карысьць з гэтага такая: Канадзкія ўлады паказалі сваю дэмакратычнасьць і як з рознаякіх культур састаўляецца цэласьць Канады. Народы, каторыя маюць незалежную дзяржаву, паказалі сваю культуру і мастацкія дасягненьні. А народы паняволеныя, як Беларусы, паказалі ня толькі сваю культуру і мастацтва (хаця шчупла), але і сваю жывучасьць. Паказалі, што паміма ўтраты сваей дзяржаўнасьці ўжо ад трох сталецьцяў, паміма жорсткай акупацыі нашага краю і ня маючы мінімальнай сувязі з родным краем, аднак мы жывём і гэраічна змагаемся за жыцьцё нашай нацыі.

Адведала наш павільён панад 6000 розных цікаўскіх, як сваіх, так і чужых. Прайшло нямала вялікіх і малых «шышак». Мо' з іх калі хто і чуў пра «ваіт-рашшя», або «рэд-рашшя», аднак у іх была адна і тая самая «Рашшя». Тут яны пабыўшы, адразу зар'ентаваліся, што «Беларашшя», гэта не «Рашшя».

Для самых беларусаў было цікава і карысна пазнаёміцца з другімі культурамі і тэхнічным умельствам. Аднак вярнуўшыся назад у Менск тут ты мог адпачыць душой і целам. Мог ня толькі зьесьці і выпіць, але пабачыць родныя краявіды, мастацкія вырабы з краю і пацешыць вока нашай моладзяй, якая талентавіта выконвала: «Юрачку', польку «Янку» і завіхастую «Лявоніху».

*Язэп Пітушка*

# „Не называйце нас братамі!“

У наш ДП-лягер у Нямеччыне прыяжджала часта жанчына з суседняга лягеру. Перш прыяжджала з мужам і з сынамі, падлеткамі. Хто была гэтая жанчына, я й ня ведаў. Затрымліваліся яны недалёка ад нас і я думаў, што яна наведвае сваю сястру. А пасьле ейны муж захварэў і ўжо баба прыяжджала адна.

Аднойчы спатыкаю яе на станцыі й мы разгаварыліся. Аказваецца, што яны прыяжджалі выменьваць розныя тавары. І яна прызналася, што наяжджае ні да сястры, ні да сваячніцы і кажа: «Мы перш разам жылі, у адным лягеры і разам хадзілі на работу. Бяда нас зблізіла: калі яны што дастануць, дзеляцца з намі, або мы з імі. Гэтак было, пакуль мой муж не захварэў. Цяпер яны мне памагаюць. Яны беларусы, а я украінка, але мы дружым».

А я кажу: «А я думаў, што вы сёстры».

А баба кажа· «Калі хто хоча каму памагчы, дык не абявязкава трэба быць сястрой!».

Такое разумнае слова сказала гэтая украінка. І я заўсёды яе ўспамінаю. Аднак, калі чытаю расейскую прэсу, дык там на кожным кроку яны называюць беларусаў братамі — з той толькі розьніцай, што расейцы апарожніваюць беларускія торбы, а напаўняюць свае...

Насылаюць нам свае кнігі, навязваюць свае тэатры, школы, накідваюць сваю мову — з крыўдай нашых культурных установаў. Дык хочацца магутным голасам сказаць:

«НЕ НАЗЫВАЙЦЕ НАС БРАТАМІ!‘ І няхай нашыя грошы ідуць на нашыя друкі, а не на вашыя. А тым часам нашыя кнігі выходзяць тыражам у 2000, а расейскія ў 200 000!, калі трэба выдаваць наадварот... Інакш вашае «братэрства» такое, што творыце з нас нявольнікаў і янычараў...

*Я. Жарнавы*

# Адышлі ў вечнасьць:

Як лісьцё з дрэваў ападае ўвосень, як сьпелыя фрукты ападаюць на зямлю, так у кароткім часе адыходзяць ад нас у вечнасьць нашыя суродзічы. Хацелася -б усіх іх успомніць добрым словам, але мы змушаны абмежыцца толькі кароткімі зацемкамі прынамсі аб некаторых.

ЯЗЭП ГЛАДКІ, нар. 4 кастрычніка 1890 г. ў Міхалкавічах у Лагойшчыне, памёр 28 ліпеня 1972 г. у Нью-Ёрку. Заслужаны пэдагог, этнаграф і лексыкограф. Сталы падпісчык нашага часапісу і дабрадзей Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны. Тут падаём у скароце ягоны апошні ліст да Біскупа Сіповіча з дня 30 красавіка 1972 году.

«Я, хоць і меў шмат клопатаў з друкаваньнем гэтых сваіх кніжак, але друкаваў іх таму, што спадзяваўся — яны будуць патрэбныя нашаму грамадзтву, (хоць і не разьлічаў на эміграцыю), а таму хацеў-бы на зямлі знайсьці шчасьлівую мясьціну, дзе-б яны даляжалі да часу, калі-б трапілі на Бацькаўшчыну... Бальшыня кніг, што я меў выслаць да Вас на сховы, ужо адпраўлена, а менавіта: «Краёвы Слоўнік Лагойшчыны», «Дудар», «Казкі пра краіну Ярылы», «Казкі пра ведзьмаў», «Практычныя назіраньні над нашай жывой мовай», «Чатыры ўрачыстасьці».

Вось — гэта на сховы! А яшчэ маю выслаць 200 лемантароў і 60 Прыказак Лагойшчыны, якія выдала Фундацыя ім. П. Крычэўскага. На друк гэтых кніжак палову грошы я даў, а палову «Фундацыя»... Сваім спадкаемцам пасьля маей сьмерці пакідаю школу ў вёсцы Міхалкавічы на Лагойшчыне, якую я заснаваў, пабудаваў школьны будынак з дапамогай сялян і працаваў у ёй дзевяць гадоў. Але з кім-жа Вам ці вашым наступнікам прыдзецца гаварыць, (калі прыдзецца)?

Бяручы пад увагу тое, што Вы мелі клопат з гэтымі маімі кнігамі дый яшчэ будзеце мець; дый і тое, што Вы ў Лёндане разгарнулі вялікую беларускую нацыянальную працу з заснаваньнем «Беларускай Бібліятэкі і Музэю ім. Францішка Скарыны», — засылаю чэк на суму 300 даляраў. Бяручы пад увагу размах вашай працы, дык гэта мізэрная сума, але, каб гэткія і маленькія ды часьцей паступалі, дык нешта і большае зложылася-б...»

МІХАСЬ ЁЎЛЕЎ, дзейны сябра ЗБВБ, Старшыня XXVI-га Агульнага Зьезду ЗБВБ, праваслаўны. Вось-жа, што аб ім піша яго даўгалетні сябра, сп. Н. Б—кі: «Дня 25-га верасьня 1972 г. пасьля кароткай хваробы адыйшоў ад нас раптоўна сьвятой памяці сп. Міхась Ёўлеў. Пакінуў па сабе жонку і чацьвёра маладых дзяцей, самаму малодшаму няпоўных тры гады. Праводзілі яга на вечны супакой а. пратаіерэй Я. Абабурка і а. Я. Пекарскі, мясцовыя беларусы і з другіх асяродкаў. Прыняў удзел такжа сп. Я. Міхалюк, Старшыня Галоўнае Управы ЗБВБ і шматлікія брытыйцы.



*Сьв. Пам. Ёўлеў з сынком*

Сп. Ёўлеў быў вельмі актыўны ў нацыянальным беларускім жыцьці, а таксама і на рэлігійнай ніве. Любіў памагаць другім і сам любіў жыцьцё. Усе яго помнім, як ветлівага з мілай усьмешкай сябру. Нарадзіўся ён 20. 9. 1920 г. ў Лагішыне на Палесьсі. У часе вайны апынуўся ён у Нямеччыне, а адтуль пераехаў у Вялікабрытанію. Быў вельмі працавітым і ашчадным чалавекам, таму хутка дажыўся дый меў сваю цырульню. Але, хаця быў вельмі заняты ў сваей працы і ў сваім сямейным жыцьці, аднак умеў знайсьці час на справы грамадзкія і тут таксама быў ахвярным. Над ягонай магілай прамаўлялі а. прат. Абабурка па беларуску і а. Я. Пекарскі па ангельску.

Належаў да ЗБВБ ад 1948 г. Доўга быў Старшынёй Аддзелу Бірмінгам

Хай будзе яму лёгкай ангельская зямля! Памёр там, дзе і жыў, у Бірмінкгам».

НІНА КАПТУРОВІЧ — нарадзілася ў Беларусі 25 ліпеня 1904 г., памерла ў Нью Ёрку 30 жніўня 1972 г. Праваслаўная. Дзейная беларуска. Пахавана на беларускім магільніку ў Іст Брансьвік, Нью Джэрсі.

Вечны супакой!

**ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»!**

Гэтым радзім і просім Вас кажначасна даваць да Вашага часапісу заклікі, довады, аргумэнты, захочаньні, зацемы, артыкулы да вучэньня дзяцей гукаць, чытаць і пісаць павялікалітоўску. Прыкладам гэткія:

Бацькі Вялікаліцьвіны (Беларусы), вучыце дзеці свае гаварыць, чытаць і пісаць павялікалітоўску!

Хто ня мае сваіх дзяцей, памажыце гадаваць павялікалітоўску тым, што маюць; гэтым вы паможаце народу свайму.

Хто з вас, выраслых, ня ўмее чытаць павялікалітоўску, навучыцеся. Ціж гэта цяжка?

Ніхто ня каяўся, рана ўстаўшы, рана ажаніўшыся, рана дзеці меўшы і рана іх узгадаваўшы павялікалітоўску (прыказь).

Калі ня хочаце даць ад сябе, дайце гэта ад нашае партыі.

*Партыя за незалежнасьць*
*Вялікалітвы-Беларусі*

*Фэльетон*

# Трынаццаць гадзін у моры

*«Мы — мужчыны — кіруем сьветам,*
*а намі — жанчыны».*

(Прыслоўе)

— Ах, чорт! — вырвалася ў мяне раптам слова. — Ужо колькі сяджу нярухома, ня спускаючы вачэй з плаўка . . .

Жонка, дрэмаючы на задзе чайкі (лодкі), прачнулася й пытае, спужаўшыся:

— Што гэта? Што гэта? . . Кастусь!

— Дый не дзяўбе зусім! З самага паўдня анічога й няма . . . Бо то рыбу лавіць трэба толькі ў мужчынскай кампаніі, а з жанчынамі — заўсёды спозьнішся. А сын і госьць сядзелі абапал мяне таксама з вудамі й такжа нічога ня вудзілі!

— Тата, — казаў сынок, — ты ня дужа ветлівы да гасьцей.

— Ах, праўда! Выбачце, госьці, бо я пры рыбе забываюся аб усім на сьвеце.

— Ну, злоўлена ня так і мала, — казалі жанчыны, перабіраючы рыбу, якая слаба траплятался ў іхных руках.

А я сам, як стары рыбалоў, з асалодай удыхнуў гэты прыемны запах, які мне здаваўся лепшы, чым дарагія парфумы. Яны мне прыпомнілі духмянасьць сьвежа скошанага сена на дарагой Бацькаўшчыне.

— О, пахнуць яны чартоўска-прыемна! — загаманіў я.

— І я амаль тры-чатыры штучкі злавіў, — гаманіў госьць, высокі бландзін з густой барадой, запушчанай па новай модзе.

А я казаў з кіслай мінай: — Ніколі больш ня буду вудзіць пасьля паўдня! Выбіла дзесяць і

дамоў, бо рыбка мяркуе лепш песьціцца на сонцы, чым чапляцца на вуду.

І сапраўды дасюль я ніколі на мора ня браў жонкі дый любіў выходзіць дадня і сустрэць сонейка, як устае з мора. Тады бледая далеч неба, усеяная тысячамі зорак, здавалася бяздоннай, а яны зіхацелі ў дзіўным урачыстым маўчаньні й адно зрэдку адна з іх раптоўна пакідала іскрысты карагод і стрымгалоў валілася, няведама куды... Нібы чалавечае жыцьцё, кінутае сьляпой сілай у неабсяжную глыбіню няведамага лёсу... Над самай галавой стаяла таёмнае сузор'е Паўдзённага Крыжа, якбы прыбітае да неба дыямантавымі цьвікамі. І мне здавалася, што яно калышацца зьлёгку, хоць гэта мая чайка гойдалася на хвалях, то падыймаючыся, то апускаючыся, а я сядзеў, гледзячы на неба, нават забыўшыся аб рыбе. І я пачуваўся, як пад цёпленькім мяккім душам-дожджыкам, што струменіцца і любасна абыймае ўсё цела й душу: толькі-ж гэта было сьвятло, што лілося зьверху на рукі й на плечы дый, зьліваючыся з галавы на грудзі, пранікае аж углыб да самага сэрца! І я дыхаў свабодна, лёгка, з радасьцяй — аж адчуваў на губах мяккае пітво салодкай райскай амброзіі; а гэта было ап'яняючае паветра — духмянасьць акіяну і далёкіх вастравоў... Так жадаў-бы ляжаць вечна, накіраваўшы вочы ў неба да таёмных нябесных ерогліфаў, якія зіхацелі нада мною.

Гэта была чароўная раніца, адна з такіх, якія даюць радасьць і роскаш душы й целу: цёплае і духмянае паветра, напоенае параваньнем травы, зёлак і кветак, песьціць і лашчыць араматам і — сказаць — смакам раньняга сьвежага акіяну і наводзіць лагоднае ўспакаеньне. Сяджу й паглядаю, як бязбрэжнае мора коціць дробненькія хвалі і ўсімі грудзьмі лаўлю навяваючы з акіяну сьвежы вецярок, салёны ад доўгага цалаваньня марскіх водаў і чую ўсім арганізмам ягоную ласку.

І вось выплывае з мора велізнае сьвяціла. А далёка-далёка, на грані кругагзору, на фоне прамямянеючага неба, рысуецца сілуэт вялікага мараплава, які — здавалася — купаецца ў праменьнях; а за ім віліся клубы дыму, пакідаючы пасмы зьмеепадобнае стужкі, працягненай упоперак усяго небасхілу. І багровы шар сонца ўсплывае ўсё вышэй і вышэй, ажно й цалкам вынырнуў з вады! Дый якраз мараплаў знайшоўся перад самым поўным сонцам і выглядаў быццам у вогненным пярсьцёнку — пасярод распаленага сьвяціла, а яно ўсё падыймалася, падганянае акіянам. І ўжо відаць было, як узьнялося даволі высока, адбываючы падарожжа працоўнага летняга дня. Толькі сілуэт мараплаву, як і ўперад, быў намаляваны на залатым фоне нябесных даляў...

Вячэраючы, жанчыны пачалі дагаварвацца што вельмі прыемна вудзіць рыбу.

— Чаму? Ці ня хочаце ізноў паехаць?

— О, вельмі ахвотна!

— А вы ўстанеце а чацьвёртай?

— Ах, не-не! Ну, а гадзіне дзевятай.. Бо раней, то надта рана...

І так нейк мяне ўгаварылі. І таму у суботу пад дванаццатую наш «Альбатрос», наняты ў Джэка, які меў іх з дзесятак, затрымаўся міль дваццаць ад берагу, каля вострава, скуль відзелі мы свае Альбаны. Дзень быў ясны, ціхі і ані найменшага ветру. А з сонца ліліся цэлыя рэчкі залатых, ледзь-ледзь падчырванеўшых праменьняў.

Ну, мы перш шчыра вудзілі, а пасьля смагла падрамалі; пасьля зноў вудзілі, але ўжо нічога не траплялася і я сьцяміў, што жанчынам зусім ня йшло аб рыбу, але ім хацелася пamандраваць па моры, дык ізноў у мяне вырвалася тое: «Ах, чорт!» што адносілася ні-то да рыбы, ні-то да жанчын...

Аж вось, падняўшы вочы ў неба, я прыкмеціў, што сонца пачынае асядаць, дык давай мы, тры рыбаловы, змотваць свае вуды, выціраць кручкі і ўтыкаць іх у плаўкі! Падняліся мы ў лодцы, каб выпрастаць косьці і лягчэй уздыхнуць; а мой сынок, як зручны мэханік, пачаў заводзіць матор. Ажно бачу я, што ўдалечыні на ружовым небе, над спакойным морам, гладкім як неабсяжная бліскучая тканіна, з залатым і вогненным адлівам, падыймалася цёмнае воблачка. Яно мяне моцна стрывожыла, але я не даў па сабе пазнаць, хоць добра цяміў, што гэта значыць.

А матор весела загаманіў. Я сеў да стырна і наш «Альбатрос» плаўна сьлізгаўся па вадзе. Аднак мяне ўсё-ж трывожыла тое воблачка; а яно ўжо давала цень, сівы й густы, які завалок цэлы бок неба, накрываючы мора і проста нёсься на нас. І я падумаў: «Калі нам удасца ўцячы, дык шчасьце, а калі не, дык...

Раптам нешта трэснула ў маторы і ён перастаў працаваць. Сын пакапаўся ў ім і аб'явіў, што зламаўся шпень, які прыводзіць у рух прапэлер і матор ужо няздатны да работы...

Дык я загадаў узяцца за вёслы! Сын і госьць узяліся выграбаць з усяе сваей сілы і мы фарсоўна ўцякалі ад туману, а ён гнаўся за намі, наганяючы нас пагрозьліва.

А я ўсё аглядаюся, а туман усё насядае!.. Дый да аднэй бяды наскочыла другая: у нашага госьця, як ён заграбаў глыбока ваду і жорстка рвануў, трах! — зламалася вясло і «Альбатрос» затрымаўся; а туман абняў нас сваей горкай пялёнкай. Холад і дрыготка прабегла па ўсім целе, а пах дыму і плесені, гэты асаблівы пах марскога туману, змусіў усіх зашчыміць губы, каб не наглытацца сырых успарынаў, якія ўжо сьцякалі з нашае вопраткі.

Што нам рабіць? Адным вяслом мала што наможаш — толькі круцімся на месцы — аж здаліся мы Божую волю... Па ўсім можна было меркаваць, што сонца зайшло. Цёмная хмара ту-

ману нас пакідала, паволі пацягнуўшыся на кантынэнт. Там-сям на праясьнелым небе замігалі зоркі. Берагу ня відно нідзе. І спадарынягосьця пачала свае пакутныя літаніі: «А я казала, як мы ішлі да мора, а нам чорны кот перабег дарогу, што будзе бяда Дык сэрца маё прачувала і я хацела вярнуцца! І што-ж цяпер з намі будзе? Ах, дзетачкі мае, маленькія мае, хто-ж вас прыгорне, прытуліць? . .»

— Спадарыня! — падняў голас я. — Замоўкніце. Ніхто вас ня прымушаў: вы самі захацелі ехаць у мора, дык ня сейце панікі! А лепш памаліцеся Богу і Бог падасьць нам ратунак. Уся надзея толькі на Бога.

І я зьмеркаваў: нас адносіць вада ў мора і мы перасякаем шлях мараплаваў, што плывуць з Сыднэю ў Пэрт, значыць, ёсьць надзея, што нас прыкмецяць. Дык я загадаў: усю адзежу неабходную затрымаць, а рэшту зламжыць у кучу. «Сынок, бярыся за дзела! Бяры па штучцы, аблівай бэнзынай, прычапі да вясла і запальвай і махай у паветры!».

Гэтымі сыгналамі мы маглі зьвярнуць на сябе ўвагу. І гэтак мы трапілі ў прамень маяка, які быў на беразе скалістым высока ля нашага гораду. Ліхтарня давала прамень на сто міль навокал і пасьля мы даведаліся, што стуль убачылі дзіўныя нашыя сыгналы. Абслута маяка зьмеркавала, што гэта трывожныя весткі і тэлэфонам паведаміла старожу ў Альбанах, якая неадкладна на маторнай лодцы выехала на пошукі няшчасных. І нас адшукалі. Мы асталіся толькі ў адных кашулях: рэшту ўсю папалілі. Была ўжо чацьвёртая рана, як нас знайшлі і за гадзіну мы ўжо стаялі на цьвёрдай зямлі.

Пачало выплываць на кругазоры сонца, нічога ня ведаючы, што пакуль яно спала вонках Аўстраліі, дык пяць людзкіх душаў было ў небасьпецы жыцьця.

Стаўшы на калені, нашая добрая госьця, падняўшы рукі ў гару, сказала: «Дзякуй Табе, Божа! Больш ніколі я на рыбалку не паеду».

— І я таксама! — падтрымала яе мая родная жонка.

— Тым лепш, — адказаў я, — менш будзе клопату з вамі, бабамі! — Хоць, праўду сказаць, і я сам быў добра напалоханы.

Аўстралія — Альбаны. *Я. Чабатар*

---

# Садома і Гамора

I

*Раз Бог гасьціў у Абрагама,*
*А Сара рыхтавала ежу —*
*О, саму смачну, саму сьвежу! —*
*Старая, а прыгожа Дама —*
*На стол з пашанай раскладала*
*Дый вельмі шчодра меркавала,*
*Каб ня было гасьцям замала!*

*А быў там БОГ і два анёлы —*
*Шчасьлівыя, што Богу служаць —*
*І маладыя дый вясёлы,*
*Бо ў небе век-вяком ня тужаць!*

*Пасьля гасьціны Бог адходзіў:*
*Паслаў анёлкаў прад Сабою.*
*А Бога Абрагам праводзіў*
*Дый гаманілі тэй парою.*

*Казаў Сам Бог: — Вялізна гора*
*Спадзе на грэшных тут людзей:*
*З усей маемасьцяй сваей*
*Згарыць Садома дый Гамора! . .*

*Дык Абрагам казаў: — На дзіва,*
*Тут грэшных і злачынцаў шмат,*
*А што ты зробіш, Міласьцівы,*
*Як будзе добрых пяцьдзесят? —*

*А Бог казаў: — Я ўсім дарую,*
*Паўсоткі добрых як знайду! —*

*Дый Абрагам: — Як на бяду,*
*Калі хоць пяць там забракуе,*
*Ці будзеш Ты ўсіх караць? —*

*А Бог — яму: — На сорак пяць? . . .*
*Ну, і тады яшчэ дарую . . .*

*І Абрагам:*
*— Яшчэ таргую!*
*Табе ня трудна даравацъ,*
*Бо я, хоць грэшны, ўсім дарую,*
*Хто мне пасьмее дакучаць. —*
*Прад Богам я — сьмяцьцё адно,*
*Я — пыл нікчэмны, парахно, —*
*Дык прад Табою я — ня варты,*
*Каб Ты мяне яшчэ больш слухаў. —*
*Але тут справы — не на жарты,*
*Каб гарады Ты два разрухаў! —*
*Вялізна маса там народу —*
*Там дзеці, моладзь . . . Зробіш шкоду;*
*Дык вось малю, даруй мне Божа,*
*Бо сорак пяць не знайдзеш можа? —*

*Бог адказаў: — З усіх гаворак*
*З табой Мы сойдземся на сорак:*
*Няхай па твойму так і будзе,*
*Каб ацалелі і ўсе людзі! —*

*

*Так Абрагам дальш заступаўся:*
*Бог уступаў — Бог літаваўся. —*
*Калі-ж дайшло да дзесяці,*
*Дык Бог сказаў: — Цяпер пусьці! —*
*Я пагляджу, Я памяркую*
*Дый нат за дзесяць ўсім дарую!..*
*Хоць вельмі трудная задача,*
*А мусіць не зраблю Я начай?—*

*Дык Абрагам: — О, добры Божа!*
*Калі ня Ты, хто-ж нам паможа?*
*Каб не пагінулі ўсе людзі,*
*Хай Твая ласка мякка судзіць! —*

*І Бог сказаў: — Ну, будзь здароў! —*
*Ты паканаць Мяне гатоў,*
*Аднак — няхай! На дзесяць згода:*
*Больш не прасі, бо й часу шкода...*

II

*Ішлі тым шляхам два сьвятыя —*
*(Казалі мы) — анёлы тыя,*
*Што Бог паслаў перад Сабою. —*
*Прышлі ў той горад — у Садому.*
*А Лёт якраз сядзеў ля дому*
*І ўбачыў іх таей парою. —*

*Лёт справядлівы быў адзін —*
*(Ён Абрагама — братні сын) —*
*Лёт перасек гасьцям дарогу —*
*Гамоніць-просіць у гасьціну:*
*— Ах, як я рады, дзякуй Богу!*
*Што вы стрымаеце пуціну,*
*Каб у мяне тут адпачыць... —*

*Анёлы кажуць: — Дзела многа,*
*Яго ня можам адлажыць:*
*Дзень уцякае, час бяжыць! —*
*Мы — важныя паслы ад Бога! —*

*А Лёт казаў: — Вам трэ' зайсьці!*
*Абтрэсьці трэба пыл з дарогі,*
*Абмыць я мушу вашы ногі. —*

*Казала жонка: — Трэ' зайсьці!*
*Стрымайце вашу падарожу. —*

*Казалі дочкі: — Нашай хаты*
*Не абмінайце мамы й таты!*
*І Лёт сказаў: — Прашу прыгожа,*
*А з вамі ўвойдзе ласка Божа! —*

*

*Зайшлі анёлы, так як госьці:*
*Былі задуманы чагосьці.*
*Пасьля такой цяжкой дарогі*
*Лёт абмывае іхні ногі.*

*Яны-ж казалі: — Гаспадару!*
*Бог адмяніў-бы страшну кару,*
*Каб было дзесяць справядлівых, —*
*Дый не знайшоў іх, як на дзіва!..*

*Шчасьліва гэта можа стацца,*
*Што ты прымусіў нас астацца:*
*Спадзе тут катастрофа скора —*
*Садома счэзьне дый Гамора.*
*А дочкі з вамі заўтра зраньня*
*Мы уцячом пасьля сьняданьня...*

*Калі ты маеш тут каго,*
*Ці мо' прыяцеля свайго,*
*Бяжы —*
*Хутчэй асьцеражы, —*
*І ўсім крычы, —*
*Хай дом пакінуць і ключы!.. —*
*А Лёт казаў: — Няма нікога —*
*Ні роднага, ні дарагога,*
*Апроч двух іхных жаніхоў,*
*Дык я хутчэй пабег-пайшоў!.. —*

*Як ластаўка ляцеў, як мог, —*
*Дык ня ўпусьцілі на парог,*
*А ўраз паставілі на сьмех —*
*На большы жаль, на стыд — на грэх. —*

*— Якое, кажуць, табе ліха?*
*Цяпер на цэлым сьвеце ціха:*
*Ці ў горах будзе лепшы рай?*
*Як ты здурнеў, дык уцякай! —*

*Ад зьдзеку, крыўды Лёт заплакаў,*
*Як муху зьеў, махнуў рукой:*
*— Вас ратаваць ляцеў, аднак*
*Вас сьмех бярэ, дык дам спакой! —*

III

*Лёт бачыць — горшая бяда!*
*Праскочыў неяк ён да хаты —*
*Аж хуліганаў грамада,*
*Як чэрці, лезьлі ўсё гусьцей,*
*Крычалі: «Гэй, Лёт барадаты,*
*Дай нам сюды сваіх гасьцей!» —*
*Іх Лёт прасіў,*
*Маліў, гразіў:*
*— Вы адступіце,*
*Прэч ідзіце!*
*Мне госьці тыя —*
*Усе сьвятыя... —*

*Няхай мне сьмерць — ня дам іх вам!*
*Лепш жонку і дачок прадам,*
*Лепш галаву сваю аддам . . .*
*Гасьцей Сам Бог тут сьцеражэ*
*І Бог усіх нас беражэ! —*

*Лёт бабам кажа: — Лезьце ў кут!*
*І ўсе спакойны будзьце тут:*
*Я-ж вас сабою засланю,*
*Даль-Бог, усіх абараню! —*

*А хуліганы ўсё крычаць —*
*Аж вуглы хаты сталі рваць!*
*Як Лёт з сям'ёй запёрся ў хаце,*
*Дык злыдні дзьверы дай ламаці!*

*Аж вось анёлы ў гэтым жаху —*
*І бяз баязьні і бяз страху —*
*Шусь! Адчынілі насьцеж дзьверы . . .*
*Аж бачыць Лёт, ня дайшы веры.*
*Што раптам сьціхла банда тая*
*Стаіць і блудзіць, як п'яная . . .*
*Тут Лёт пазнаў, што людзі тыя —*
*Адразу сталі ўсе сьляпыя! . .*

*Рукамі ляпаюць з бяды,*
*Паўзуць, як жабы, хто куды! —*
*Так Бог у рукі справу ўзяў —*
*Яе так лёгка разьвязаў . . .*

IV

*Ад хаты Лётавай найдалей*
*Паўзьлі і плакалі, стагналі:*
*«Лякарства» Божа памагло,*
*А ў Лёта сэрца адлягло.*
*І бабы ўжо паспакайнелі:*
*Крыху пілі і трошкі елі:*
*Палезьлі зараз на палаці —*
*Стагналі толькі: «Спаці-спаці!»*

*І спалі моцна, але чутка.*
*Анёлы Лёта разбудзілі,*
*Казалі ўсім: — Зьбірайцесь хутка! —*
*З сабой каб ежу падхапілі —*
*З Садомы зараз уцякаці,*
*А рэшту ўсё пакіньце ў хаце —*
*Нічога не жалець — ня браць,*
*Бо зараз гарады згараць! . .*

*Як матка стогне, дочкі плачуць —*
*Так хочуць браць, што вочы бачуць!*
*Анёлы раптам — бяз прынукі —*
*Ім тое-сёе ткнулі ў рукі,*
*А ўсіх так зручна падапхнулі,*
*Што тыя нават не пачулі!*

*Пад рукі ўзяўшыся па двое,*
*Ляцелі ўраз праз горад сьпячы. —*
*(Ён зараз крыкне дый заплача,*
*Але дарэмна будзе тое!).*

*Анёлы кажуць: — Дальш бяжыце,*
*Нікому слова не кажыце,*
*Ані на момант ня спыняйцесь,*
*Ані назад не аглядайцесь! . . .*

*Анёлы зьніклі ў іх вачах, —*
*Напаў на іх вялізны страх! —*
*А Лёт гукаў: «Хутчэй, баражэй,*
*Каб нам уцеч як найдалей! . . —*

*Аж чуюць, што зямля здрыгнула:*
*Маланка, гром і пяруны! . . .*
*— Ці-ж ацалеем мы адны? —*
*Такая думка ўсіх кранула.*

*— А што там дзеецца ў Садоме?*
*Што ў нашым доме?*
*Што ў Гаморы? . . —*
*Тут жонка Лётава ў тым горы*
*І ў страху моцна здрыганулась —*
*Аж ня стрывала — аглянулась! —*
*Ні слоўца не сказала болей —*
*Замест жанчыны — быў стоўп солі . . .*

*А тройка тых ператрывалі:*
*Пабеглі — беглі далей-далей,*
*Бяз жонкі — ён, яны — бяз маткі,*
*Але жывыя — без аглядкі!*

*І толькі ў горах адпачылі:*
*Свае вузлы, як разлажылі,*
*Дык елі, спалі, гаравалі —*
*І Богу ўсё ахвяравалі . . .*

*Ды ім нітрошкі, ані мала*
*Нават у думках не паўстала,*
*Што асталіся ўсе жывыя —*
*Абедзьве дочкі маладыя*
*І стары бацька гэтаксама*
*ТОЛЬКІ МАЛІТВАЙ АБРАГАМА! . .*

Лёндан, 7. VII. 1971. а. Я. Г.

## ДУМКІ АБ АЛІМПІЯДЗЕ

Выдатны швэдзкі рэжысэр гаворыць: — Трэнінг павінен муштраваць ня толькі цела, але й душу. Мазгі таксама важныя як мускулы. Трэнінг павінен перамагаць натуру.

Зьвяры заўсёды у сваей форме, бо яны ня нэрвуюцца ўсьцяж, як людзі.

Чалавек, які ўвесь дзень сядзіць у бюры, выносячы важныя пастановы, ёсьць вечарам больш змучаны, чым дрывасек, які цэлы дзень працаваў з пілой-сякерай.

Умеласьць адпачываць, поўны рэлякс (адпружаньне) неабходны для добрай формы фізычнай.

# Мядзьведзь у бядзе

(Байка пасьвячаецца Прыяцелям —
Беларусам і Украінцам).

*Жыў-быў Мядзьведзь — такі вясёлы!*
*Дый стаў павольны, хілы й кволы:*
*Ён не раве рашуча й сьмела —*
*Прад ім прырода ўся дрыжэла,*
*А стогне — аж скрыпіць панура:*
*Глядзі — гарбатая фігура! —*
*Ах, дзе падзелась моц юнацка?*
*Дзе сіла, дзе бравура хвацка?*
*Цяпер Мядзьведзь ваўка баіцца*
*І мыш яму і жаба сьніцца.*
*Як зорка слава зігацела —*
*Яна бліск сонца ў сабе мела . . . —*
*Цяпер-жа, як камэта ранна,*
*Занікла, згасла — ўся туманна. —*
*А ўся прычына туткі ясна —*
*Мядзьвежа нястрыманасьць ўласна:*
*Мядзьведзь упаў у прорву саму —*
*На дно — ў сваю няволю — ў яму! . .*
*Ратуй нас, Божа, з тэй нядолі —*
*З тэй катастрофы алькаголю!*
*Бо мы ў ім розум свой дурманім —*
*Душу народную паганім.*
*Агонь загас і слава шчэзла,*
*А хвала ўся з душы аблезла:*
*Як кветка райская адцьвіўшы,*
*Завяла,*
*Ўпала,*
*Рана згніўшы:*
*Зьнік арамат, брыда пануе —*
*Чорт пекла на зямлі будуе . . .*
*О, неабходна зьмёртвых ўстаньне*
*І БОЖЫ ЦУД!*
*Хай сонца гляне,*
*Каб адчыніў Бог нашы вочы*
*Па страшнай, па ганебнай ночы!*

Лёндан, 27. X. 1972. — а. Язэп Гэрмановіч

---

## *«Папрабуйце не сьмяяцца!»*

Малады чалавек прыбегшы да доктара: «Хачу вам падзякаваць за карыснае лячэньне».

Доктар: «Гм-гм . . . так . . . але-ж вы ніколі ня былі маім пацыентам»?

Малады чалавек: «Так, я ня быў, але мой дзядзька быў і па ім я атрымаў спадак».

*(Ільлюстрэйтэд Ўклі оф Пакістан)*

Жонка да мужа: «Мусіш мне прырачы, што ня будзеш рагатаць, як я скажу табе, колькі я заплаціла за гэты новы капялюш».

*(Сатэрдай Івнінг Пост)*

Судзьдзя да падсуднага: «Як вы маглі ашукваць людзей, якія вам давяралі?».

Падсудны: «Спрабуйце вы ашукаць таго, хто вам не давярае»

*(Ільлюстрэйтэд Ўіклі оф Індіа)*

Судзьдзя да кабеты-сьведкі: «Памятайце, што вы зладжылі прысягу і павінны гаварыць праўду, колькі маеце гадоў?».

Сьведка: «Дваццаць адзін і некалькі месяцаў».

Судзьдзя: «Колькі месяцаў?».

Кабета: «Сто восем».

*(Ньюарк Стар Ледгер, Злучаныя Штаты)*

Цётка Антоля ня ўмела чытаць, аднак да касьцёла насіла вялікую кніжку да набажэнства й пільна з яе «малілася». Аднойчы ёй суседка й кажа: «Дый ты, Антолька, трымаеш кніжку дагары нагамі, каб хоць людзі з цябе ня сьмяяліся!?».

«А бадай цябе! Гэта-ж дзеці ў хаце яе перавярнулі й не агледзелася . . .».

---

ПАМЫЛКІ ДРУКУ Ў АРТЫКУЛЕ:

«Беларускія рэлігійныя выданьні XIX—XX стаг.» — «Божым Шляхам» № 4, 1972, г., бач. 4—9.

| | | Надрукавана | Павінна быць |
|---|---|---|---|
| Бачына 4 | | бяз выданьня | бяз даты выданьня |
| „ 5 | № 26 | Укр. | Упр. |
| „ „ | № 28 | 1921—22 | 1921—22. 67, 75, 66 бач. |
| „ „ | № 31 | Бажая Ліра | Божая Ліра |
| „ „ | № 42 | Прадстава | Прадслава |
| „ 6 | № 54 | (Каз. Найловіч) | К. Н. (Каз. Найловіч) |
| „ „ | № 56 | Констытуцыя | Канстытуцыя |
| „ „ | № 57 | Таварёства | Таварыства |
| „ „ | № 75 | зачацьця | Зачацьця |
| „ 7 | № 106 | 1959 | 1929 |
| „ „ | № 108 | Божае слова | Божае Слова |

# Думкі Хасыдаў

ХАСЫДЫ — жыдоўская група пабажнейшых. Залучаем некалька выняткаў з кніжкі Марціна Рубэра: «Тэйлс оф дэ Хасідім‘, Нью Ёрк, 1861. Найбольш апавяданьняў узята з жыцьця жыдоў у Беларусі з XIX стаг.

КОЖНЫ — НА СВАІМ МЕСЦЫ. Пыталіся рабіна Абрагама. У кнігах мудрасьці кажацца: «Кожны мае сваё месца. А чаму людзям так цесна?» А ён адказаў: «Ну, бо кожны хоча ўлезьці на месца другога!».

ДЗЕ ЁСЬЦЬ БОГ? Калі рабін Мэер быў яшчэ хлопцам, зьвярнуўся да яго адзін чалавек і пытае: «Дам табе адзін гульдэн, калі мне скажаш, дзе ёсьць Бог?». А Мэер яму адказаў: «А я дам табе два, калі ты мне скажаш, дзе Бога няма!».

САПРАЎДНАЯ НЯВОЛЯ... Прарок Майсей вывеў жыдоў з няволі ў Егіпце. А цяпер рабін Мэнох сказаў: «Сапраўдная няволя ў Егіпце палягала на тым, што жыды да яе тады прывыклі».

ЗЬМЕСТ:



Druck: „Logos" GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14